PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 42 (2057) ГОД XL — БЕЛАСТОК 15 КАСТРЫЧНІКА 1995 г. — ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Самотны конь над ракою... Пра творчасць майстра мастацкай фатаграфіі Віктара Волкава чыт айце на стар. 8 рэпартаж Ады Чачугі "Месца для птушкі".*

*САКРАТ ЯНОВІЧ*

## ВЫРАТУЙМА ТОЕ, ШТО ВЫРАТАВАЛЬНАЕ

**Выступленьне на Кангрэсе Беларускага ПЭН-Цэнтра, які праходзіў у Менску 1—4 верасьня 1995 г.**

Беларуская этнічная мяншыня ў Рэспубліцы Польшча застаецца ў сірочай закамплексаванасьці; тым болей датычыць гэта яе дыяспары ў алгямэрацыях. Рэспубліка Беларусь ёсьць не нацыянальнае, а сацыяльнае ўтварэньне і, натуральна, не зацікаўлена яна беларуска-унікальным аспэктам свайго існаваньня, што цалкам тлумачыць тую абыякавасьць і да закардоннага зямляцтва. Сяньня магчыма ўжо ігнараваць беларускі субстрат, рэдукаваны за гады камунізму да этнаграфічнае экзотыкі.

У гэтым кантэксьце дзяржаўна-палітычную праблему ўладам Рэспублікі Беларусь уяўляе сабою яшчэ літаратура. Расейскамоўныя творцы ў ёй не дамінуюць, таксама якасна. Фэномэн грамадзкага існаваньня аўтахтоннага мастацкага слова зводзіцца да клясычнага парадоксу: маргінальнае ў жыцьці — яно манапольнае ў творчасьці. Кшталтам, скажам, лацінскага пісьменства ў некалі барбарскай Эўропе або цяперашнім часам у маладых краінах Афрыкі, у якіх мова культуры ад калянізатараў.

Беларусь не вызвалілася ад мэнталітэту падкаляніяльнага люду. Найперш псыхалягічна. Таму першаступенная роля ў яе духова неабходным разьвіцьці належыць пазанацыянальным структурам, менавіта асобнай ад Расеі дзяржаве як той патэнцыі, якая аб’ектыўна, неінтэнцыйна, фармуе пачуцьцё іншага лёсу. Адраджэнская ідэя ў Рэспубліцы Беларусь — не вырашальны фактар, першачаргова арганізоўваючы грамадзтва. Інтэграцыйная моц тут у інэрцыйнасьці самое гістарычнай сытуацыі. Гэта рэзультат самачыннага распаду Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублікаў, які распароўся па ўнутраных швах. Машынальна прызнаная на міжнародным форуме незалежнасьць абрынулася як быццам зь нябёсаў!

Улічыўшы прыроду канструкцыі Рэспублікі Беларусь — застанецца яна на працяглы час буфэрным творам. Падставу дзеля гэтага прагнозу дае хуткаплынная цывілізацыйная трансфармацыя. Век тэхналёгіі чыніць тэрытарыяльныя анэксыі эканамічна недаходнымі, стратнымі. Беларусь асуджана затым на ўласную дзяржаўнасьць. Яна патрэбна каму-колечы не больш, чымсьці пажаданы сатэліт, падатлівы сусед, неклапотная дарэмшчына. Абсалютна падыходзіць пад палітычна-эканамічную катэгорыю трэйцяга сьвету.

Беларуская нацыянальная мяншыня ў Беласточчыне паводзіць сябе ў прынцыпе ідэнтычна. З той капітальнай розьніцай, аднак, што гісторыя не гарантуе ёй вечнасьці. Яе беспэрспэктыўе абумоўлена знаходжаньнем у Польшчы і адсутнасьцяй духоўнага апірышча па другі бок мяжы. Справа нават і не ў малым зацікаўленьні ёю афіцыйнага Менску; масы прыежджых сюды з гарадзенскага ды берасьцейскага напрамкаў патрыятычна індыфэрэнтныя — іх беларускасьць асацыюецца з пашпартам, тоеснасьцей нацыянальнасьці і грамадзянства. Гэта адсякае эмацыянальную пупавіну з Маці-Айчынаю, саштурхоўвае ў палянізацыю. І па аналёгіі:

*Працяг на стар. 4*

*ГАННА КАНДРАЦЮК*

## Самагубства з-за самотнасці

Павесіўся Ваня, вясковы адлюдак і дзівак. У Н. прадчувалі няшчасце. Калі пачалі выць па начах сабакі, не адзін вясковец пра сваю смерць падумаў.

— У нас як у Сербіі людзі паміраюць, — каменціруе сустрэчны дзядзька з роварам, які доўга змагаецца з памяццю, каб прыгадаць хрэсьбіны ці вяселле ў сваёй вёсцы.

На працягу года ў Н. памерла адзінаццаць асоб.

### Дурны і ўсё!

На лавачцы пры драўлянай хатцы з аканіцамі расселіся маўклівыя, неприсутныя думкамі бабы. Пенсіянеркі ў белых хустках. Усе быццам экспанаты з этнаграфічнага музея. Побач паэтычныя матывы з твораў беларускіх літаратараў — амшэлая страха, паросшы зеллем панадворак, студня з жоравам.

— Восень хаця пераржыць, вясны дачакаць, — талкуюць старэчы з безнадзейнасцю ў голасе.

Найстарэйшай, глухой Парасцы С., дзевяноста два гады. Памятае бежанства, войны, пажары і голад.

— А цяпер усё ёсць, толькі жыцця няма, — філасофствуе бабуля.

— Адны недабіткі, як мы, асталіся на *родіне* — наракаюць без абурэння.

— Пра Ваню гаварыць нязручна. Не такі як усе быў. Дурнаваты проста і ўсё! Чарцей бачыў. Не дзіва, што і канец такі яму прыдумалі. Добра, што бацюшка такі дабрызны быў і пахаваў яго як хрысціяніна, — распавядаюць у Н., забытай пушчанскай вёсачцы.

— Як мы сябравалі? — успамінае калега Вані, тоўсты, немалады ўжо вясковец. — Ого, як сябравалі! У Вані сустракаліся аматары бутэлькі не толькі з Н., але і з суседніх вёсак. Туды нават бабы з К. прыходзілі, у тым ліку адна такая, што за бутэльку распраналася.

— Разумны быў хлопец Ваня, *паліціку* і літаратуру ведаў. А спяваў так свае песні, што душа млела. Як салавей проста, з закрытымі вачамі. Мы ўсе яго тут уважалі, — успамінае ледзь не плачучы калега загінуўшага. Разам ідзем агляцуць пакінутую сялібу.

У вакне драўлянага доміка віднее пакет з парашком „Pollena 2000”.

— Чысты быў, не так як іншыя, — дадае мой субяседнік.

Праз вакно відаць толькі стол, тры пустыя слоікі, раскінуты ложак і гумовыя боты. Уся хата абклеена прыгажунямі з каляровых журналаў. На панадворку трава і пустазелле.

— Гаспадаркі не меў, бо працаваць сёння не аплачваецца. Ды і няма для каго працаваць, — адзначае мой праваднік, моцна акцэнтуючы апошнія словы. — Вы б там у газеце нейкіх дзяўчат нам пашукалі. Хоць бы румынкі якія, абы згадзіліся!

Солтыс вёскі, таксама немалады кавалер, першы ўбачыў вісельніка.

— Ён то і раней хадзіў як аблуда. Забярэцца і тры—пяць дзён па лесе ходзіць. Як воўк нейкі. А пазней згаладаецца і просіць яды па людзях.

— Цётку, ці ведаеце як у Амерыцы жывуць! Там пяць разоў у дзень абедаюць, ды і працуюць лягчэй як мы. Дайце паесці нейкай прохліскі, дроў вам нарубаю, — паўтарае словы Вані маці солтыса, старэча з добрымі вачыма.

— Усё такое цікавае нам гаварыў, — дадае бабка. — Можа, каб бабу меў, то не змарнаваўся б. А то здурэў ад выпіўкі. Прыйдзе і расказвае, што зноў чорта пабачыў.

— Такіх як Янак, — гаворыць сябра ахвяры з суседняй вёскі, — у нас многа. Хто цяпер не любіць выпіць? А ён здурэў, бо ўсё газеты чытаў. І кнігі нам паказваў. Быў такі час, што да іегавістаў хацеў запісацца. Ведаеце, як панаходзіць маладых дзевак і пачнуць намаўляць, то чалавек не толькі веру памяняў бы. Мы тут сваёй рэлігіі трымаемся і Янак астаўся з намі. І мне зараз пасля пахавання ён прысніўся.

— Жоржык, мне тут так сумна аднаму, прыходзь да мяне, — успамінае жахлівы сон калега з суседняй вёскі, не надта цвярозы брунет у гумоўцах. — То я, як сарваўся са сну, давай усім сон расказваць. Бабы гавораць, што цяпер на мяне чарга прыйшла.

### Пра лёс Вані

і ягоных калег гавораць і задумоўвуюцца ўжо пасля смерці.

— А так то мы нікому непатрэбныя людзі, ні гаспадарак, ні сям’і, ні надзеі. Адно што ўлетку на грыбах зарабіць можна. Вядома, апрануцца трэба.

Прадаўшчыца ў магазіне пярэчыць, быццам грыбны заработак ідзе на вопратку.

— Калі пачынаюцца грыбы, то віно і піва, а нават *дзінатуру яшчыкамі* купляюць. І як не холадна, то валяюцца за *склепам*. Ідзіце паглядзіце: і сёння ляжаць, — пасылае мяне жанчына ў не надта белым кіцелі.

Ваня гадаваўся без бацькі. Старэйшы на дзесяць гадоў брат яшчэ пры Герку ўцёк у людзі. Пасля арміі астаўся ў Кракаве, там ажаніўся і след па ім прапаў. Ніколі не наведаў маці і брата.

*Працяг на стар. 4*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Trzeba pamiętać, że w Polsce uczy się obecnie na wszystkich trzech poziomach tj. podstawowym, średnim i wyższym, ponad 5 tys. osób w 170 szkołach z językiem białoruskim, w tym 100, w których wszystkich przedmiotów naucza się po białorusku, w 2 liceach z językiem białoruskim, a 400 studentów uczy się języka białoruskiego w Katedrze Filologii Białoruskiej UW.*
*Nowe Kontrasty, nr 9, wrzesień 1995 r.*

І падумаць толькі, што мы ўжо шмат гадоў зусім беспадстаўна наракаем на адсутнасць беларускага школьніцтва. А тут, калі ласка, хапае прачытаць нейкі польскі часопіс і зараз робіцца весялей на душы. Аказваецца, што на Беласточчыне ёсць аж 100 школ, у якіх усе прадметы выкладаюцца на беларускай мове. Толькі чаму гэтыя школы дзейнічаюць у падполлі? Жывем жа ў дэмакратычнай краіне і няма патрэбы весці тайнае навучанне. Ніхто таксама не падумаў, што ў Варшаве праводзіць падпольную дзейнасць прафесар Аляксандр Баршчэўскі. Афіцыйна на беларускай філалогіі вучыцца 30—40 студэнтаў — у большасці палякаў, а неафіцыйна аказваецца, што ёсць іх у 10 разоў больш. Сярод беластоцкіх інтэлектуалаў ходзяць чуткі, што беларусы ад ваяводскіх улад атрымалі 20 мільярдаў злотаў на 1995 год, а ў будучыні — вядома — будзе яшчэ больш. Ці ёсць яшчэ нейкая меншасць, якой так добра жывецца?

* * *

*5 верасьня перад будынкам беларускага пасольства ў Маскве прайшла акцыя пратэсту супраць указу прэзідэнта Лукашэнкі, які забараняе дзейнасьць шэрагу рэспубліканскіх прафсаюзаў. Пікет арганізавыны быў Усерасейскай канфедэрацыяй працы, Аб'яднаньнем расейскіх прафсаюзаў, і незалежным прафсаюзам гарнякоў Расеі. Удзельнікі пікету трымалі плакаты: „Беларускія браты! Расейскія рабочыя салідарныя з вамі", „Прэзідэнт Лукашэнка, рукі прэч ад беларускіх рабочых!"*
*Свабода, н-р 36*

З гэтага відаць, што магчымае сапраўднае расейска-беларускае сяброўства.

* * *

*Рабочая паездка Прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі ў Горкі і Шклоў завяршылася футболам. У Шклове Прэзідэнт згуляў у сяброўскім матчы з сваімі равеснікамі і знаёмымі. Першы Прэзідэнт ужо ў першыя хвіліны матча ў якасці цэнтральнага нападаючага з падачы свайго кіраўніка спраў Івана Ціцянкова бліскуча забіў першы гол. На вышыні застаўся кіраўнік дзяржавы і да канца сустрэчы. Яму ўдалося пасляць у вароты працўніка яшчэ два мячы. Аляксандр Лукашэнка прадэманстраваў землякам і журналістам добрую фізічную падрыхтоўку, уменне валодаць мячом. Зусім відавочна, што інтэнсіўныя заняткі спортам дапамагаюць кіраўніку дзяржавы спраўляцца са сваімі абавязкамі, вытрымліваць шквал крытыкі з боку апазіцыі, вырашаць шматлікія эканамічныя і сацыяльныя праблемы.*
*Голас Радзімы, н-р 35*

Шчаслівая краіна, якая мае такога „Прэзідэнта". Ад часу Нікалае Чаўшэску не было ў Еўропе так геніяльнага палітыка. Шкада, аднак, што Аляксандр Рыгоравіч не выступае ў зборнай Беларусі ў чэмпіянаце Еўропы па футболу. Добра было б, каб Беларусь паказалася ў фінальным турніры. Але не ўсё яшчэ патрачанае.

* * *

*Мне ўжо 16 гадоў, але я ўжо зведала боль і сорам за людзей, якія імкнуцца задушыць беларускае слова. Слова, на якім заўсёды размаўлялі нашы дзяды і прадзеды, на якім спявалі калыханкі нашым бацькам. Бездапаможнасць, безнадзейнасць і жах — гэта ўсё, што засталося ў маёй душы пасля рэферэндуму, — піша Вольга Анціповіч, вучаніца 153 Сярэдняй школы г. Мінска.*
*Наша слова, н-р 35*

Моладзі заўсёды штосьці не падабалася. Нават такі дэмакратычны рэферэндум.

* * *

*To co się stało w rosyjskim parlamencie 9 września podczas nadzwyczajnej sesji Dumy, kiedy dwaj deputowani Łysienko i Żyrynowski pobili 61-letniego starca i kobietę, świadczy nie tylko o poziomie kultury politycznej w Rosji. Łysienko runął najpierw na 61-letnego duszpasterza Jakunina, pchnął go na ziemię, złapał za łańcuch i usiłował zerwać krzyż. Na pomoc dawionemu, z trudem chwytającemu powietrze starcowi, ruszyła deputowana Jewgienija Tiszkowa. Z drugiej strony ruszył Władimir Żyrynowski, bez którego nie może odbyć się żaden skandal w Dumie. „Kola bij tego klechę, gada. Bij go, rwij sutannę" — ryczał w bojowym zapale Żyrynowski do faszysty Łysienki, który tymczasem zdołał już zerwać krzyż i wywijając nim okładał ojca Jakunina. Po drodze nawinęła się pod rękę Żyrynowskiemu inna deputowana Nina Wołkowa, którą wódz rosyjskich liberało-demokratów wyrżnął pięścią w zęby. Tiszkową Żyrynowski najpierw odepchnął, potem zaczął dusić, a w końcu zerwał okulary, chwycił za włosy i miotał nią w różne strony.*
*Polityka, nr 38*

Пачаткі пабудовы дэмакратыі заўсёды бывалі складанымі. Жырыноўскі або Лысенка раней ці пазней апынуцца ў псіхушцы.

* * *

*Pół żartem, pół serio powiedziałem prezydentowi, że powinien wygrać wybory głosami ciemnogrodu — czyli wielkiej rzeszy ludzi niezadowolonych, ubogich, osieroconych przez nowy ustrój, a potem „nasadzić" rząd, składający się z żydokomuny. Tylko taki rząd potrafi utrzymać władzę w ryzach. Wałęsa rozumie, że choć realną władzę w kraju ma lud i jego kartki do głosowania, to rządzić powinien gabinet okrutny, twardy, który lud będzie łupił. Nie ma innego wyjścia. Ale tego, oczywiście, Wałęsa nigdy nie powie,* — сказаў Лех Фалляндыш.
*Polityka, nr 37*

* * *

*Komunizm polegał nie na tym, że panował terror i idiotyczny rytuał, ale na tym, że ludzie mu ulegli — żeby dostać przydział na nawozy, żeby dziecko zdało na studia. To był raj dla miernot bez sumienia, udręka dla osób przyzwoitych, a dla większości szara uległość. Pokazywanie tamtego czasu wyłącznie jako paranoi jest dla stłamszonych życiem w PRL ludzi wtórnym poniżeniem.*
*Gazeta Wyborcza, nr 222*




**Дырэкцыя Фонду POLCUL** — Незалежнага фонду падтрымкі культуры ў Польшчы, які дзейнічае ў Аўстраліі ад 1979 года — узнагародзіла 23 асобы за дзейнасць у руху культуры і пабудовы грамадзянскай супольнасці ў Польшчы ды пашырэння супрацоўніцтва і дружбы з яе суседзямі. За дзейнасць у карысць польска-беларускага супрацоўніцтва вылучэнні атрымалі **Сяргей Дубавец** і **Алег Мінкін**, а за развіццё супрацоўніцтва з літоўцамі і беларусамі — **Барбара Рэшко і Мечыслаў Яцкевіч.**

**Старшыня Управы рэгіёна „Салідарнасці" ў Беластоку Юзэф Мазалеўскі** паінфармаваў журналістаў, што яго арганізацыя наладзіла сувязь з пасольствам ЗША ў Варшаве ў справе супольнай дапамогі рэпрэсіраваным членам Свабодных прафсаюзаў Беларусі.

**Медыцынская акадэмія ў Беластоку** адзначала 45 гадавіну свайго існавання. За згаданы перыяд гэтая вышэйшая навучальная ўстанова выпусціла 8 362 лекараў і 1 305 дантыстаў.

**У Музеі войска ў Беластоку** адкрыта выстаўка здымкаў і дакументаў аб абароне Брэсцкай крэпасці ў 1941 годзе. Экспазіцыю падрыхтавалі брэсцкія музеязнаўцы, а ў адкрыцці выстаўкі прымаў удзел **Павел Панасюк** — дырэктар Мемарыяльнага комплексу „Брэсцкая крэпасць — герой".

**У Белавежы засядаў Канвент ваяводаў** — дарадчы орган прэм'ер-міністра і шэфа Управы Рады Міністраў. У ходзе белавежскай сустрэчы дванаццаць прадстаўнікоў усходніх ваяводстваў краіны абмяркоўвалі кампетэнцыі спецыяльнай адміністрацыі і праект закона аб нерухомасцях. Гарачыя спрэчкі выклікала справа т.зв. „забужанскай маёмасці".

**У Супраслі** адбылася навуковая канферэнцыя аб ахове водных рэсурсаў вадазбораў верхняй Нарвы і Супраслі. Навукоўцы абмеркавалі таксама пытанне Семяноўскага вадасховішча, які меў забяспечваць Беласток вадой, але пакуль што служыць толькі сельскай гаспадарцы. У канферэнцыі ўдзельнічалі эксперты з Менска, якія прадставілі даныя аб рэсурсах і забруджанні вадазбора Нарвы на тэрыторыі Беларусі.

**Лакальны друк і тэрытарыяльнае самакіраванне** — так называўся семінар для журналістаў гмінных прэсы, які сарганізаваў у Супраслі Фонд развіцця лакальнай дэмакратыі. Цікавасць да выдавання гмінных газет павысілася пасля апошніх самаўрадавых выбараў. Цяпер у Польшчы выходзіць каля трох тысяч найменняў гэтага тыпу перыёдыкі.

**На Кантрольна-прапускным пункце ў Кузніцы-Беластоцкай** у пачатку кастрычніка шафёрам вялікіх грузавікоў прыходзілася чакаць нават 60 гадзін на перасячэнне польска-беларускай мяжы. Апрача павелічэння колькасці машын прычынай чэргаў на граніцы было выкрыццё на беларускім баку значнай кантрабанды папяросаў і аварыя абсталявання на самым пераходзе. Цераз гэты КПП перапраўляецца па 200 аўтафураў у суткі.

**Ваяводская пракуратура ў Беластоку** ўзбудзіла крымінальную справу супраць грамадзянкі Беларусі **Святланы І., жонкі высокага беларускага дзяржаўнага чыноўніка**, якая на купленай аўтамашыне маркі „Нісан" вярталася на радзіму. Падчас праверкі на граніцы выявілася, што машына была раней украдзена ў Варшаве, а дакументы і нумары — сфальшаваны. Святлану І. арыштавалі і абвінавацілі ў выкарыстоўванні фальшывых дакументаў.




> Янка Сычэўскі палемізуе з Міколам Ваўранюком і бельскімі уладамі. Міхась Куптэль палемізуе з Янкам Сычэўскім.

> Чаму на Усход ездзяць пустыя аўтобусы?

> Ці ёсць яшчэ беларускія студэнты?

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Новая апазіцыйная партыя

У Менску ўзнікла новая палітычная арганізацыя — Аб'яднаная грамадзянская партыя, якую ўзначаліў былы старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч. Яе дзеячы намерваюцца бараніць дэмакратыю ад „незаконных дзеянняў улад і аўтарытарных тэндэнцый у палітыцы прэзідэнта". Новая партыя называе сябе ліберальна-кансерватарскай. Яе погляды супадаюць з тымі меркаваннямі, якія ў Польшчы атаясамліваюцца з асобай Лешка Бальцэровіча, а ў Расеі — з асобай Ягора Гайдара. Партыя хоча згуртаваць палітыкаў, якія паверылі ў заяву прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі аб рэфармаванні Беларусі, а сёння, калі расчараваліся ягонай дзейнасцю, не могуць знайсці сабе месца на палітычнай сцэне. Дзеячы АГП лічаць, што запавольванне прэзідэнтам рэформаў прывяло да таго, што Беларусь стала адной з найбяднейшых краін СНД.

## Плаўная прыватызацыя

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў праграму прыватызацыі, якая павінна стаць асновай дынамічнага развіцця эканамічных рэформаў у Беларусі. Прыватызацыя ў рэспубліцы будзе насіць плаўны і паэтапны характар, у якой гарманічна ўлічаны інтарэсы замежнага і беларускага прадпрымальніцтва, сацыяльныя гарантыі людзей працы. У бліжэйшы час Аляксандр Лукашэнка мае намер падпісаць указ аб інвестыцыйнай дзяржаўнай палітыцы, які дазволіць замежным інвестарам на канкрэтных умовах набываць на ўласнасць пэўныя прамысловыя прадпрыемствы, іх тэрыторыю для наступнай тэхналагічнай мадэрнізацыі.

## Судовы абмен

У Вышэйшым гаспадарчым судзе адбылася сустрэча яго старшыні Уладзіміра Бойкі з групай польскіх суддзяў на чале са старшынёй Вярхоўнага суда Польшчы Станіслававам Рудніцкім. Падчас размовы, у якой браў удзел першы намеснік старшыні ВГС Аляксандр Кісялёў, былі разгледжаны практычныя пытанні ўзаемадапамогі ў справе абмену літаратуры ў галіне гаспадарчага права, адзначаны накірункі і задачы супрацоўніцтва. На сустрэчы былі закрануты пытанні дзейнасці беларускіх судоў, іх статус у сістэме новых адносін, пытанні фінансавання. Госці ў сваю чаргу расказалі аб рабоце і структуры раённых і ваяводскіх судоў Польшчы.

## Запрашэнне замежных назіральнікаў

Цэнтральны выбарчы камітэт Беларусі па просьбе старшыні Вярхоўнага Савета Мячэслава Грыба накіраваў праз Міністэрства замежных спраў запрашэнне шэрагу арганізацый з прапановай узяць удзел у якасці назіральнікаў у паўторных выбарах дэпутатаў Вярхоўнага і мясцовых саветаў. На выбары ў прыватнасці запрошаны назіральнікі ад Парламенцкай Асамблеі, Міжпарламенцкай Асамблеі Еўрапарламента і некаторых іншых арганізацый. У лісце Міністэрству замежных спраў Цэнтрвыбаркам паведамляе, што ўсе выдаткі, а таксама матэрыяльнае і тэхнічнае забеспячэнне назіральнікаў будзе праводзіцца за кошт прыбываючага боку. У Цэнтральнай выбарчай камісіі на гэта папросту няма сродкаў. У той жа час Цэнтрвыбаркам абавязваецца даць неабходную акрэдытацыю ўсім назіральнікам.

## Сілы хуткага рэагавання

Ва ўзброеных сілах Беларусі створаны мабільныя сілы, якія інакш называюцца сіламі хуткага рэагавання ці апаратыўнага разгортвання. Такія пераўтварэнні праведзены на аснове новай ваеннай дактрыны, якая носіць абаронны характар, у сувязі з чым у рэспубліцы адпала неабходнасць утрымліваць злучэнні, якія прызначаліся раней для наступальных ваенных дзеянняў у інтарэсах цэлага фронту.

## Няўдалая выстава

У Брэсце завяршыла работу міжнародная выстава „Бізнес-кантакт", якая рэгулярна праводзілася два гады. На жаль, цяперашнюю сустрэчу бізнесменаў не назавеш паспяховай і гэтаму шмат прычын. Напрыклад, некаторыя польскія прадпрыемствы адмовіліся ехаць на брэсцкую выставу з-за павышэння мытных збораў на беларуска-польскай граніцы. Парадаксальна, але факт, на гэты раз практычна не было тавараў беларускай вытворчасці. Далейшы лёс такіх эканамічных мерапрыемстваў апынуўся пад пытаннем.

## Парады юным капіталістам

На айчынным кніжным рынку з'явіўся вучэбны дапаможнік эпохі пераходнага перыяду „Капіталізм для дзяцей. Як стаць прадпрымальнікам". Аўтар кнігі Карл Хес справядліва заўважае, што грошы альбо зарабляюць, альбо крадуць. Як вядома, капіталам называюць сродкі, якія ўкладваюць у справу і размова ў кнізе ідзе пра тое, як самому зарабляць грошы, займаючыся бізнесам. Выпушчаны ў Маскве падручнік для будучых капіталістаў налічвае 270 старонак і карыстаецца ў Беларусі ўстойлівым попытам. Мабыць, красці менш будуць, калі вырастуць.

## Непаўторны фэстын

Дваццатага жніўня г.г. у Сямяцічах адбыўся фэстын, які арганізавала Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Для мяне гэтае мерапрыемства стала непаўторным здарэннем. Спачатку здавалася мне, што нічога незвычайнага не адбудзецца. От, прыедуць беларускія калектывы, праспяваюць прыемныя для вуха песні, і ўсё. Але на гэты раз было інакш. Над амфітэатрам, здавалася, залунаў іншы дух, які прывабіў вялікую колькасць жыхароў горада і наваколля. Натоўп слухачоў розных нацыянальнасцей радаваўся выступленнямі самадзейнікаў, быццам бы наступіла новая эпоха, таму што не заўважалася ні нацыяналізмаў, ні прадузятасцей ні дагматызмаў, з-за якіх чалавеку часта прыходзіцца губляць свой твар. На гэты раз кожны ўдзельнік канцэрта перажываў супольны рытм, які вызначала песня, песня на беларускай мове. Тут жа ўсе пляскалі ў далоні, тупалі нагамі, калыхаліся ў такт музыкі, многія танцавалі вакол пляцоўкі. Усё радавалася, нават матылёчкі, якія кінуліся ў незвычайны танец вакол ліхтарных лямпачак, што засвяціліся над новым амфітэатрам, распалажаным у цудоўным адпачынковым месцы — над залівам.

Слухаючы канцэрт, падумалася мне: чаму ж многія людзі рвуцца біцца, ваяваць; не лепш было б ім спяваць песні? Але, хіба, на нашым зямным шары так заведзена, што без ваеннай атмасферы не абысціся. Відаць, яна самім Богам дадзена, бо ў другой главе Першай кнігі Майсеевай чытаем: „Так створаны неба і зямля і ўсё войска іх". Каму ж патрэбнае войска? Чалавеку, каб забіваць адзін аднаго. Перадумаўшы гэтае ўсё, мне хацелася б знайсці спосаб на ажыццяўленне ў чалавецтве лозунга: лепш спяваць, чым ваяваць!

Сёлетні фэстын беларускай песні ў Сямяцічах удаўся на славу. Артысты запаланілі ўсю публіку. У памяці і сэрцах жыхароў Сямяціч гэтае культурнае мерапрыемства будзе захоўвацца доўга. Ад імя ўдзячнай публікі арганізатарам і выканаўцам кажу шчырае дзякуй!

**Язэп Карпюк**

## З будовы

У Бельску-Падляшскім адна фірма збудавала многапавярховы дом, г.зв. блёк. Першыя жыхары пасяліліся ў ім пад восень мінулага года. А тым часам фірма дабудоўвала новае крыло будынка, якое аддае ў карыстанне цяпер.

У старым крыле адна кватэра стаяла пустая. Калі цяпер пасялілася туды сям'я, выявілася, што трэба яшчэ падключыць электрычную печку. У жыллёвым кааператыве сказалі, што гэта абавязак будаўнікоў.

Карыстаючыся нагодай, што якраз будаўнікі выконваюць такія самыя паслугі ў новым крыле, гаспадар пустуючай да гэтай пары кватэры папрасіў кіраўніка будовы падключыць печку і яму. Кіраўнік спачатку доўга думаў і лічыў, ці не скончыўся ўжо тэрмін гарантыі. А потым таксама доўга думаў, праз які час можа з'явіцца іхні электрык. Выйшла, што чакаць давядзецца доўга. Але, сказаў кіраўнік, калі не пашкадуеце дзвесце тысяч, то я вам зараз паклічу чалавека і за паўгадзіны печка будзе падключана.

Гаспадар папытаў, што з рахункам за паслугу. Які рахунак, здзівіўся кіраўнік, што, вам дзве сотні шкада?

**ак**

## Турызм пачынаецца з карты і веласіпеда

27 верасня адзначаецца сусветны дзень турызму. У гэты дзень, па ініцыятыве дырэктар Пачатковай школы ў Дубічах-Царкоўных Ніны Добаш-Карпюк, адбылася краязнаўчая экскурсія для старшакласнікаў. Маршрут экскурсіі распрацавалі вучні сёмага класа, настаўнікі падабралі ахвотных, купілі харчы. У сераду (27 верасня) імжыў дождж, але моладзь і настаўнікі не знеахвоціліся кепскім надвор'ем і падаліся на веласіпедах у падарожжа па блізкім наваколлі. Дваццаць тры вучні і два апекуны наведалі нашы беларускія вёскі і палюбаваліся родным краявідам. Праехалі яны 45 кіламетраў, а іх маршрут вёў з Дубіч-Царкоўных цераз Чэхі-Арлянскія, Елянку, Кляшчэлі, Сухавольцы, Сакі, Залешаны, Рудуты ў Дубічы-Царкоўныя. У Тапарках юныя краязнаўцы запалілі вогнішча і пасілкаваліся печанымі каўбаскамі. Па дарозе групай веласіпедыстаў цікавіліся жыхары вёсак, якія ахвотна размаўлялі з намі. Якраз у гэты дзень адзначалася свята Уздзвіжання Крыжа Гасподняга і сяляне мелі больш свабоднага часу. Нягледзячы на дрэннае надвор'е і стомленасць, вучні вярнуліся з экскурсіі з вясёлымі мінамі.

**Славамір Кулік**

## Гміннае прыбіранне свету

Ужо другі раз праводзілася экалагічная акцыя „Прыбіранне свету". У мінулым годзе я, як апякун школьнага самакіравання, сам арганізаваў гэтую акцыю ў Пачатковай школе ў Дубічах-Царкоўных. Тады група з дзесяці вучняў прыбірала праваслаўны могільнік непадалёку школы. У гэтым годзе ў арганізацыю акцыі ўключыўся войт гміны Анатоль Паўлоўскі. Удзельнікі прыбірання атрымалі пластмасавыя пакеты для смецця, лапаты і граблі. Напярэдадні адбыўся экалагічны конкурс, пераможцы якога былі ўзнагароджаны зробленымі мною шапачкамі з лозунгамі, якія прапагандавалі сёлетнюю акцыю „Прыбіранне свету". У першы дзень трохдзённага экалагічнага мерапрыемства школьная моладзь са Старога Корніна, Грабаўца і Дубіч-Царкоўных прыбірала лес, парк, абочыны дарог. Смецця было мноства. Назбіралася цэлыя гурбы адпадкаў. Некатарае смецце вучні закапалі на месцы, а рэшту вывез на звалку спадар Канстанцін Кучко з Управы гміны.

За працай дубіцкіх вучняў наглядаў спадар Малмышка з Надлясніцтва Чэхі-Арлянскія, які ва ўзнагароду купіў усім удзельнікам прыбірання напоі. На заканчэнне акцыі моладзь з Дубіч і Грабаўца сустрэлася ля вадасховішча, дзе Управа гміны наладзіла ім вогнішча з каўбаскамі.

На другі дзень акцыі, а была гэта субота, паляўнічыя з паляўнічага гуртка ў Белавежы ачысцілі лес каля Чэхаў-Арлянскіх і Вітава, а на заканчэнне акцыі, у нядзелю, дубіцкія пажарнікі прыбралі тэрыторыю вакол могільніка ды закапалі смецце ў трох вялікіх ямах.

Прыбіранне навакольнага асяроддзя павінна стаць стылем нашага жыцця, а не толькі экалагічнай акцыяй. Наогул, што яе ініцыятарам быў Ян Кернан з Аўстраліі, які падчас самотнага рэйсу вакол свету перакanaўся, як моцна ўжо забруджаны моры і акіяны. 8 студзеня 1989 г. сарганізаваў ён прыбіранне заліва каля Сіднея. З тае пары акцыя выйшла па-за межы Аўстраліі, разышлася па ўсім свеце і ўрэшце дайшла ў Дубічы-Царкоўныя, на ўзбярэжжа Белавежскай пушчы. Хацелася б, каб трывала яна да канца свету, а нават на дзень даўжэй, як гаворыць Ежы Оўсяк.

**Славамір Кулік**

Весткі з Гайнаўкі

## Чысцей у горадзе і ў наваколлі

У палове верасня гэтага года (15, 16 і 17.IX) у Гайнаўцы праводзілася акцыя прыбірання горада і прыгараднай аколіцы. Арганізавалі яе: Гарадская ўправа, Надлясніцтва, Асяродак спорту і рэкрэацыі ды Прадпрыемства камунальных паслуг у Гайнаўцы. У акцыі ўдзельнічала 920 чалавек, галоўным чынам моладзь з пачатковых, прафесіянальных і агульнаадукацыйных школ. У горадзе былі добраўпарадкаваны перш-наперш парк і скверыкі, а таксама пасёлкавыя панадворкі і вуліцы.

У прыгарадным комплексе Белавежскай пушчы прыбірала 350 дзяцей і моладзі. Пасля заканчэнай працы было супольнае вогнішча ды смакавіты печаныя на агні кілбаскі. Гайнаўскія леснікі згодна сцвердзілі, што смецця ў лесе было значна менш смецця, чымсьці ў мінулым годзе. Гайнавяне штораз больш шануюць прыроду.

**(яц)**

## Хто заступіцца за старога

27 верасня бягучага года ехаў я аўтобусам ПКС з Гайнаўкі ў Ляўкова (рэйс Гайнаўка—Беласток, ад'езд з аўтобуснай станцыі ў Гайнаўцы а гадзіне 15.25). Гэтым аўтобусам ехала дадому вясковая моладзь, у тым ліку найбольш з Нараўкі, якая вучыцца ў гайнаўскіх прафесіянальных школах ды ў агульнаадукацыйных ліцэях. У загаданым аўтобусе сядзелі школьнікі, а сталі... старэйшыя, пажылыя людзі, пенсіянеры. Стаяў ветэран II сусветнай вайны (пазнаёміўся я з ім 22 верасня г.г. у Нараўцы, калі яму ўручылі памятны медаль „50 год перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945"). Што было рабіць? Стаяў я да Нараўкі. Ветэрану пашчаслівілася прысесці ў Свінароях, што пад Нараўкай, ужо тады калі высела там пару чалавек.

Такі абразок цяпер не навінка. Крыўдна нам, якім за 60, 70, а то і 75 гадоў. Адкуль гэта бярэцца, што маладыя не ўшаноўваюць, не паважаюць старых?.. Дзяўчаты і юнакі спрактыкаваныя ў тым, каб здорава прыдушыць, прыціснуць пенсіянераў да сценкі аўтобуса, калі толькі той пад'едзе і адкрые дзверы. Яны — сарганізаваны дзікунскі табун.

Настаўнікі і педагогі, можа вы прыйшлі б і паглядзелі калі-нікалі, што чаўпуць вашы выхаванцы на аўтобусным вакзале. Тут таксама трэба выхоўваць моладзь. Я быў сведкам, калі недзе ў сярэдзіне верасня шафёр не стрываў дрэнных паводзін аднаго няўрымслівага маладзёна і вытурыў яго з аўтобуса. А як пры тым знервавауся! Калі ж у такім стане было яму весці аўтамашыну на амаль 80-кіламетровым шляху, толькі ён ведае.

**Янка Падарожнік**

У Нараўчанскай гміне

## Будзе відней ноччу

Шматлікія вёскі ў Нараўчанскай гміне не маюць навейшага вулічнага электраасвятлення. У некаторых сёлах у доўгія асеннія вечары і ночы свяціці ўсяго адзін або два ліхтары. Электраўстаноўкі ў іх заржавелыя і распадаюцца.

Гмінныя ўлады запланавалі пабудаваць новае асвятленне між іншым у Ахрымах, Гарадзіску, Крыніцы, Лешуках, Міхнаўцы, Масеве, Падляўкоўі, Плянце, Старым Ляўкове і ў Скупаве. Будуць у згаданых вёсках абсталяваны м. інш. аўтаматычныя гадзіннікавыя ўключальнікі.

Апрача таго ў некаторыя вёскі, у тым ліку ў Міхнаўку і ў Плянту, будуць прывезены і пастаўлены новыя таблiцы аб'яў. У згаданых сёлах ад пару гадоў іх не было зусім.

**(яц)**

## Добрыя і благія бакі сучаснасці

Некалькі гадоў не пісаў я ў „Ніву". З таго часу многае ў маім асяроддзі змянілася. Перш за ўсё з'явілася дарога, якая спалучыла вёску Райкі са Студзіводамі. Пабудавалі таксама водаправод з Дубяжына праз Казлы, Райкі ў Леўкі, што ў Бельскай гміне. У апошнім часе паклалі асфальт на вуліцы Левак.

І хаця Бельская гміна не вельмі багатая ў фінансавыя сродкі, але і гэтыя невялікія грошы ўлады выкарыстоўваюць разумна.

Сумна толькі з-за таго, што чалавек не памятае, як гулялі на вясковых хрысцінах. Рэдкасцю бываюць традыцыйныя вяселлі. Усё часцей і часцей на школьных дзвярах паяўляюцца замкі. У бягучым годзе закрылі школьны аб'ект у Дубяжыне.

Зараз мяне завуць дзедам. Не ведаю, сумаваць ці весяліцца з-за гэтага? Ведаю толькі, што абавязкаў земляроба з мяне не знялі, а здароўе не паправілася. З году ў год становіцца ўсё цяжэй і цяжэй. Апошнім часам нават міласэрны Бог перастаў глядзець на нас прыхільным вокам і пасылае як не спёку, то навальніцы. І крыўдзіцца на Яго няма повада, Ён жа намнога старэйшы за мяне. Ды што Ён можа? Нічагусенькі.

Астаецца верыць у Еўрапейскую Унію. Вось яна Рэч Паспалітую паставіць на роўныя ногі! Толькі глядзі, калі каровы пачнуць паскудзіць малаком, а куры несці залатыя яйкі.

**Валянцін Семянюк**

## Агульны сход ЗБМ

У пятніцу 22 верасня ў Бельску-Падляшскім адбыўся агульны сход Звязу беларускай моладзі, у якім прынялі ўдзел 22 дэлегаты.

Удзельнікі сходу падвялі вынікі дзейнасці арганізацыі за два мінулыя гады. За гэты час ЗБМ арганізаваў некалькі культурных мерапрыемстваў, такіх як Купалле, рэйд „Сцяна", фестываль „Бардаўская восень", канцэрты Віктара Шалкевіча і паездка на Беларусь. Старшыня ЗБМ Багдан Сіманенка палічыў мінулы перыяд удалым.

Прысутныя дыскутавалі таксама пра бягучыя справы арганізацыі: як прыдбаць памяшканне для Звязу і купіць хату на вёсцы. ЗБМ вырашыў таксама ўзяць пад патранаж створаны сёлета маладзёжны ансамбль „Палешукі".

З'езд адобрыў дзейнасць папярэдняга праўлення і перавыбраў улады. У тайным галасаванні дэлегаты нанава старшынём выбралі Багдана Сіманенку. Намеснікам старшыні стаў Юрка Шульскі, а скарбнікам Юрка Асеннік. У Галоўную раду ўвайшлі: Ігар Лукашук, Крыштафор Ангельчык, Павел Даўжынскі, Рыгор Цыванюк, Крыштафор Сяськевіч і Альжбета Снарская. Рэвізійную камісію састаўляюць: Тамаш Андраюк, Пятро Астасевіч і Тамаш Варановіч.

**Юрка Шульскі**

# САКРАТ ЯНОВІЧ

# ВЫРАТАВАЦЬ ТОЕ, ШТО ВЫРАТАВАЛЬНАЕ

*Працяг са стар. 1*

літаратурны рух у Беластоцкім Краі гэтак-жа беларускамоўны, нягледзячы на прагрэсуючае высыханьне роднамоўя. Рэспубліка Беларусь палянізуе польскіх беларусаў — толькі на выгляд гучыць гэта парадаксальна.

Актуальны стан наогул беларускай культурнай дзейнасьці на нацыянальным узроўні ў сваіх публічных маштабах настолькі маргіналізаваны тым часам, што без датацыяў яе проста няма. Казённыя субсыдыі адпускаюцца ў памерах элемэнтарнага выжываньня, накшталт улагоджаньня пакутаў агоніі. Прэтэнзыі за гэта ў адрас Рэспублікі не зусім абгрунтаваныя: яна-ж не ёсьць дзяржаваю беларусаў, а насельніцтва ў сваіх межах, і не яе заданьне выратоўваць нацыю, будучы створанай не ў выніку народнай волі, але па-за ёю. Адначасна насоўваецца выснова, што беларускамоўны друк, мэтанакіравана пазбаўлены грамадзкага статусу тавару, застаецца без шанцаў на незалежнае існаваньне (каб не хапацца клямкі дабрадзея). Нерэальна, напрыклад, заснаваць выдавецтва разьлічанае на самафінансаваньне. Такое становішча нельга вызначыць іначай, як нацыянальна-мяншыневае таксама ў Рэспубліцы Беларусь, з дыктатам у ёй расейскіх асымілянтаў. У Польшчы, для прыкладу, дзейнічаюць літаральна сотні выдавецкіх фірмаў, якія ні граша не бяруць ад ураду. Нешта падобнае чуваць пра Эстонію, у дзесяць разоў меншую за Беларусь.

Прыход прамысловай цывілізацыі элімінуе вёску як постфэадальную структуру. Размываецца этнічнасьць, мадыфікуючы дэмаграфічны тып чалавека ў пераважна гарадзкі. У сувязі з тым адбываецца іншы раз гаворка пра сваеасаблівую ірляндызацыю Рэспублікі Беларусь, у якой карэнная культура бачыцца ў якасьці аздобы, паказовага экспанату, шыльды, хатняга акварыюму. Мэрытарычная памылка спомненых разважаньняў у тым якраз, што ірляндзкая нацыя і ейнае духовае аблічча фармаваліся ўжо пасьля англізацыі і грунтуючыся не столькі на забытай кельцкай існасьці, колькі на каталіцкай апазыцыйнасьці ў дачыненьнях з Ангельцамі, народам пратэстанцкім. Беларуская культура ўзьнялася да вышыняў нацыянальнай і стала прысутнай у сьвеце яшчэ да эпохі татальнае русыфікацыі ды імкліва вырастае ў сусьветную патэнцыю на базе мінімальна ўцалелага этнасу, які нагадвае сабою кідкі ў вочы энкляў на апустыненых абшарах. Яна, звычайна, чужая савецкаму тыпу асобы. Яе экспансыя ўшыркі рушыць разам з адміраньнем „гомо советікуса”, якому Беларусь была ўсяго як адрас пражываньня, а Бацькаўшчынаю ўспрымалася ім ажно шасціна зямное кулі. Упадак імпэрыі заўсёды працяглы ў душах людзкіх, як рэарыентацыя клімату не адразу мадэлюе прыроду, фаўну і флёру.

Ва ўмовах асынхроніі паміж дзяржаўнасьцяй і нацыянальнай сьпеласьцяй варта ўсьведаміць сабе, што гэта ножны-гільятына замежным мяншыням Беларусаў. Пакуль Беларусь зьбеларусее і завозьмецца праводзіць нармальную палітыку маці для ўсіх родзічаў, засмокчуць іх асыміляцыйныя працэсы-віры ў грамадзянскіх ім краінах. Не прападуць яны дарэшты, праўда, задзейнічае „эфэкт пружыны”, г.зн. нівэляцыя запыніцца на дарозе высокае беларускай культурнасьці ў элітных праслойках. Беларус стане сынонімам інтэлігэнта. Пра нейкую кампактнасьць у гэтым пляне не давядзецца потым гаварыць. Польскамоўе ў нас пашыранае не ў меншай ступені, чымсьці расейскамоўе ў Рэспубліцы, што нікога не павінна зьдзіўляць. Але скуткі таго і таго акажуцца процілеглыя; наш лёс атоесаміцца з польскім. Празрыстасьць кардону не ўратуе: вы для нас — vox populi — Расейцы, Расіякі, несымпатычна рэагуючыя на нашу пакуль што беларускасьць.

Становішча польскіх Беларусаў зьмяняецца дакладна палітычнай пазыцыі Беларусаў у Беларусі. Русыфікацыйны націск сынхронна адгукаецца палянізацыйным. Так было да вайны, так і пасьля яе. Шырэйшае ўсёж поле нацыянальнай свабоды ў Беласточчыне вызначаў не ўрад у Варшаве, а прыватны лібэралізм у саміх Палякаў; беларускі патрыятызм не так машынальна кваліфікавана ў нацыяналізм, шавінізм.

Інструмэнтальная трактоўка не толькі беларускай мяншыні прымушае сяньнячы Варшаву спахапіцца ў прыдатнасьці і яе ў працэсе інтэграцыі ў Эўрапэйскую Супольнасьць з аднаго боку, і ў процідзеяньні вяртаньню Расеі на нёманскую Сьвіслач і Буг — з другога. У выпадку Беларусаў, аднакжа, гэтыя захады ўжо спозьненыя: пачалася фінальная адслона драмы, самапалянізацыя. Галоўны мэханізм яе ў капіталізацыі сельскай гаспадаркі, рэструктурызацыі ў фэрмэрства, у гарадызацыі сялянства. Русінскі „тутэйшы” ідзе ў „ляцкую” большасьць, бы камень у ваду. Гаспадароў Беласточчыны мог-бы ўзаемакарысна ўтрымаць рынак у блізкай Беларусі, але яго няма і доўга не будзе, пакуль самагубна не апусьціцца да самюткага дна савецкі сацыялізм, гэтае несусьветнае эканамічнае глупства. Для самое Польшчы ўраджаі нашых палёў не патрэбныя, неканкурэнтныя.

Маюць рацыю тыя, хто сьцвярджае, што ў набліжэньне цывілізацыі горада і лесу нацыянальна-мяншыневыя арэалы падлягаюць зьнікненьню (трэба бачыць зарастаючыя рэдкалесьсем вёскі ў паласе т.зв. Усходняй Сьцяны Польшчы). Пастулятыўна кажучы, каб не дапусьціць да інтэлігэнцкай маргінальнасьці нашага этнасу ў Беласточчыне, трэба-б задзеяньня трох фактараў адначасова: празрыстасьці дзяржаўных межаў, параўнаўчага паабапал узроўню быту, нацыянальнай кандыцыі Рэспублікі Беларусь. Але ўсё гэта ўтопія! І то на гадоў сорак, пасьля якіх справа адыйдзе ў нябыт, зробіцца беспрадметнай. Далёка нам да ідэалу Швайцарыі, у якой дэнацыяналізацыя анічога і анікому не аблягчае, не калькулюецца.

Выратуйма тое, што выратавальнае: беластоцкі фрагмент беларускай літаратуры. Рэспубліцы Беларусь патрэбна гэта, бы сабацы пятая нага, але, на шчасьце, не яна тут гаспадар сытуацыі. Беларускамоўным літаратарам Беластоцкага Краю моцна парадзелі шэрагі чытачоў, з тысяч да соцень ужо. Наклады кніжак павінны транспартавацца зь Беластоку ў Менск, Гомель, Віцебск, Магілёў, Гародню, Бярэсьце, Баранавічы, Маладэчна... Спонсарамі з Рэспублікі Беларусь. „Вэртыкальнікі” гавораць часамі і па-беларуску, але пасьля, пэўна, гідліва плююцца ад такое ганьбы... Яны ненавідзяць нас нянавісьцю хама, якому перашкаджаюць панам стацца!

Пісьменнік можа існаваць у чужародным асяродзьдзі — гэта банальная праўда. Не можа, аднак, без чытача.

# Самагубства з-за самотнасці

*Працяг са стар. 1*

— Ваню я запамятала як нікога, — успамінае настаўніца пачатковай школы.

— Już wtedy miał diabelskie pomysły. Аднойчы, зімой, прывязаў сабаку ля прыбіральні. Так хацеў адпомсціць за сваю першую двойку. Маладая настаўніца прасядзела там са дзве гадзіны, пакуль паляўнічы з суседняй вёскі не застрэліў сабаку. Вучыўся добра, здольны быў. Шкада, што змарнаваўся, — уздыхае настаўніца-ветэранка.

Пазней вучыўся ў Міхалове, у ліцэі. Навуку перарвала смерць маці. Два тыдні на могілках начаваў. Тады пачаў уцякаць ад людзей у лес. Хацелі ўзяць у псіхушку, але знеахвоціліся пастаяннай яго адсутнасцю ў хаце.

Пасля трыццаткі Ваня ўсіх зашакіраваў. Прыехала да яго маладзіца, прыгожая, здаровая. Пазнаёміліся праз пасрэдніцтва газеты. Прыехала з дзвюма пакетамі, аж з-пад Варшавы. Цяжка было ёй у пушчанскай вёсачцы. Уцякла пасля года жыцця з Ваняй. Тады і распіўся насмерць. Калі піў, то сустракаўся з калегамі, а як цверазеў, то па лесе бадзяўся.

— Ужо два гады будзе, як пра чарцей пачаў гаварыць, — успамінаюць бабы на лавачцы.

— Так і падказалі яны яму канец, — талкуюць старэчы.

Ніхто дакладна не ведае, у якіх абставінах павесіўся Ваня. Знайшлі яго пры дзвярах, павешанага на клямцы, з вышчаранай, шчарбатай усмешкай, без ботаў і вопраткі. Пахавалі на грошы грамадскай дапамогі. На пахаванне ніхто з сям'і не з'явіўся.

**Ганна Кандрацюк**

P.S. Імёны герояў зменены.

# Дэзінфармацыя

24 верасня ў галоўнай інфармацыйнай тэлеперадачы „Wiadomości” была змешчана карэспандэнцыя з Гродна, дзе паказвалася закладка краевугольнага каменя пад пабудову польскай школы ў гэтым горадзе. Пры нагодзе выступіла віцэ-міністр адукацыі Рэчы Паспалітай Данута Грабоўская, якая сказала, што добра было б, каб палякі на Беларусі мелі такія самыя ўмовы навучанння дзяцей роднай мове, як беларусы ў Польшчы. Праінфармавала таксама тэлегледачоў, што беларуская меншасць мае тут знакамітыя ўмовы развіцця сваёй асветы. У дзесятках школ вядзецца навучанне на беларускай мове і знаходзяцца яны пад асаблівай аховай з боку асветных улад Польшчы.

Выказванне спадарыні міністр сведчыць аб тым, што асветная адміністрацыя мае цьмянае ўяўленне пра стан беларускага школьніцтва ў Польшчы. Цяжка сабе ўявіць, каб спадарыня міністр свядома пажадала гродзенскім палякам такой адукацыйнай сістэмы ў вывучэнні роднай мовы, якую маюць беластоцкія беларусы. Цяжка таксама паверыць у тое, што адзін з найважнейшых ураднікаў проста хлусіць. Найбольш праўдападобнае тое, што пані міністр проста пляце глупствы толькі таму, што не мае ніякіх інфармацыяў пра сапраўдны стан беларускага школьніцтва. Але адкуль мае іх мець, калі беластоцкі месячнік „Nowe Kontrasty”, рэдагаваны старымі журналістамі, якія вельмі добра ведаюць рэчаіснасць, піша, што на Беласточчыне ёсць 170 школ, у якіх навучаецца беларуская мова, прытым у 100 школах на гэтай жа мове выкладаюцца ўсе прадметы. У сітуацыі, калі няма ніводнай беларускай школы, такая інфармацыя нават не павінна называцца дэзінфармацыяй, а толькі правакацыяй. Пры нагодзе можна толькі запытацца, чаму гэта робіцца? Якія мэты ставяць аўтары, пішучы ілгунства, са свядомасцю, што ўсё сказанае з'яўляецца менавіта ілгунствам. На непраўдзівых фактах, на падставе фальшывай гісторыі немагчыма весці добрую палітыку. Тое, што сказала ў Гродне пані міністр, сведчыць аб тым, што ў найбліжэйшай будучыні рэвалюцыі ў беларускім школьніцтве на Беласточчыне не будзе. Ураднікі, відаць, перакананыя, што ў нас усё квітнее і паспяхова развіваецца. Тады навошта тут нешта мяняць. На лямант нешматлікіх беларускіх дзеячаў, што няма ніякіх беларускіх школ, ніхто ўжо не звяртае ўвагі. От, нейкія дзівакі!

рэд.

# Аб беларускіх тэлеперадачах

26 верасня старшыня Беларускага саюза Яўген Вапа і сакратар Управы БС Юры Каліна сустрэліся ў сядзібе Польскага тэлебачання з дырэктарам Бюро лакальных аддзелаў тэлебачання Томашам Семонякам. Размова датычыла павелічэння часу беларускіх перадач у „Тэлевізійным кур'еры ваяводстваў” і падрыхтоўкі журналістаў для будучай беларускай праграмы ў Беластоцкім асяродку тэлебачання.

Да гэтай пары выйшлі ў эфір дзве — у жніўні і верасні — 10-хвілінныя перадачы. Цяпер рыхтуецца наступная, кастрычніцкая. У лістападзе і снежні будуць па дзве такія ж, а ад студзеня можна будзе глядзець адну 20- і адну 10-хвілінную перадачу штомесяц.

Польскае тэлебачанне арганізуе курсы для журналістаў з мэтай падрыхтоўкі будучых рэдактараў беларускай праграмы ў Беластоцкім асяродку. На сённяшні дзень, аднак, са стварэннем гэтага асяродка ў Варшаве спазняюцца. Няма згоднага супрацоўніцтва між Краёвай радай па справах радыёвяшчання і тэлебачання і Наглядная радай тэлебачання. Паяўляюцца таксама націскі, каб, замест Беластока, чарговы асяродак стварыць у Ольштыне.

— Аднак няма ніякіх сумненняў, ці быць беларускай праграме ў Беластоку, — сказаў Томаш Семоняк. — Калі толькі будзе там тэлецэнтр, напэўна будуць і перадачы па-беларуску.

М.В.

# Чарговая бібліяграфія а. Рыгора Сасны

Пакуль я сабраўся за чытанне нядаўна выйшаўшай кніжкі а. Рыгора Сасны (у сааўтарстве з Дарафеем Фёнікам) п.з. „Dzieje Cerkwi w Bielsku Podlaskim”, атрымаў ужо новую публікацыю таго ж аўтара. Сапраўды, а. Рыгор сваёй працавітасцю можа здзівіць любога чалавека!

Новая публікацыя — гэта „Wstępna bibliografia Chrześcijaństwa wschodniego. Druki polskojęzyczne okresu współczesnego. Suplement II”. У ёй улічаны артыкулы і іншыя матэрыялы, што былі надрукаваны ў „Wiadomościach Metropolii Prawosławnej w Polsce” за 1947—1948 гады, „Церковном Вестнике” за 1954—1994 гады і „Wiadomościach Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego” за 1971—1994 гады. Аўтар раздзяліў у бібліяграфіі ўсе тры часопісы, а ў рамках кожнага наймення сістэматызаваў матэрыялы паводле асобных тэмаў. Нумарацыю жа зрабіў супольную для ўсіх пералічаных артыкулаў і заметак. Разам назваў 1758 публікацый.

Кожная з трох частак бібліяграіі папярэджана факсіміле тытульнай старонкі часопіса. Пасля падаецца змест раздзелаў. Вядома — не магло абысціся без індэкаў — імяннога і геаграфічнага. Пералік публікацый (часта з анатацыямі складальніка бібліяграфіі) папярэджвае прадмова а. Генрыка Папроцкага — у трох моўных версіях: польскай, беларускай і расейскай, а таксама спіс прынятых скарачэнняў. Ёсць і падзяка аўтара Фонду праваслаўнай культуры ў Варшаве, асабліва ж яго старшыні інж. Васілю Піўніку, за аказаную помач у выданні публікацыі.

Ужо традыцыяй стала, што на вокладках сваіх кніжак а. Р. Сасна змяшчае тэксты артыкулаў, звязаных з закранутай тэмай ці рэцэнзій, недзе раней надрукаваных. На гэты раз прыводзіцца рэцэнзія Міраславы Папежынскай-Турэк на выдадзеную аўтарам падборку сітуацыйных справаздач Ваяводскай управы ў Беластоку за 1928—1939 гады.

Згаданая бібліяграфія налічвае 80 старонак. Выдаў яе беластоцкі Orthdruk. Яна запаўняе чарговы прабел у бібліяграфіі польскага праваслаўя.

**Пётр Байко**

## З ЧЫМ У 1996 ГОД?

Адказ на гэтае пытанне ад дырэктара Бюро па справах нацыянальных меншасцей Міністэрства культуры і мастацтва Ежы Бісяка хацелі пачуць прадстаўнікі Беларускага саюза: старшыня **Яўген Вапа** і сакратар **Юры Каліна**.

— Мы ў вельмі цяжкай сітуацыі, — гаварыў спадар Бісяк у час сустрэчы, якая праходзіла 26 верасня. — Бюджэт нашага бюро на будучы год павялічыцца толькі на 15%. Гэта, калі ўлічыць прыкладна дваццаціпрацэнтную інфляцыю, нават менш, чымсьці ў бягучым годзе. Меншасці склалі нам праекты мерапрыемстваў, якія павінны мы дафінансаваць сумай 40 мільярдаў старых злотаў. На сённяшні дзень мы маем 19 мільярдаў. Я спадзяюся, што мы вытаргуем яшчэ некалькі. Калі б у нас было якіх 25 мільярдаў, мы маглі б спакойна задаволіць важнейшыя пастулаты. Адчуваем цяпер меншую дапамогу з боку парламенцкай Камісіі нацыянальных меншасцей, чымсьці тады, калі старшынёю яе быў Яцак Курань. Я зычу яму перамогі ў прэзідэнцкіх выбарах, тым не менш, хацелася б як найхутчэй бачыць яго зноў у камісіі. Дзякуючы яму, у гэтым годзе дасталі мы дадатковыя 2 мільярды. Такой пазіцыі як ён, не мае ніводзін іншы пасол.

Яўген Вапа пытаў, што з рэалізацыяй праектаў, якія склаў ён асабіста ад імя Беларускага саюза ў Бюро яшчэ ў ліпені.

Гэта, між іншым, польска-беларуская журналісцкія варштаты „Свабода слова'96”, Літаратурныя сустрэчы „Бязмежжа'96” ды падрыхтоўка рапарту пра стан беларускай меншасці ў Польшчы.

— Мы іх яшчэ разглянем, — казаў дырэктар, — але, панове, не можаце спадзявацца, што ўсе атрымаюць адабрэнне. Я ў мінулым годзе пераняў так, а не інакш сканструяваны бюджэт. Ёсць ужо пастаянныя формы актыўнасці беларусаў, якія фінансуюцца намі з году ў год. Мы не можам, от так сабе, перакінуць сродкі з аднае імпрэзы на другую. Вашыя задумы могуць быць як найбольш вартасныя, але ад іх грошай у нас не большае.

Юры Каліна пытаў, які лёс чакае выдавецтвы нацыянальных меншасцей. Асабліва тыя, што з'явіліся ў пачатку 90-х гадоў, незалежна ад цэнтральнага кашалька.

— Я не хачу ліквідацыі выданняў, — адказаў Е. Бісяк, — але калі да снежня не атрымаем больш грошай, нават з дапамогай Кураня, збяру ўсіх рэдактараў і мы мусім абмяркаваць якоесьці рашэнне. Я яшчэ не ведаю якое, можа іншы выдавецкі цыкл, можа іншыя выдавецкія ашчаднасці, убачым. Сёння 65% нашага бюджэту ідзе на друк, далей так быць не можа. Мы не можам стацца выдавецкім канцэрнам, мы мусім дафінансоўваць і іншыя ініцыятывы, культурныя мерапрыемствы.

На пытанне пра палітыку Міністэрства культуры і мастацтва ў дачыненні да меншасцей дырэктар Бісяк адказаў:

— Мы не вядзем ніякай самастойнай палітыкі. Ёсць дзяржаўная палітыка захавання культурнай спадчыны і яна датычыць усіх грамадзян. Мы не можам казаць нацыянальным меншасцям, што для іх павінна быць больш важнае: газета, школьніцтва, фальклор ці тэатр. Кожная з гэтым пытаннем мусіць справіцца сама.

Юры Каліна не пагадзіўся з тым, што міністэрства не вядзе сваёй палітыкі. Ужо сам раздзел сродкаў на тыя ці іншыя мерапрыемствы або арганізацыі з'яўляецца ствараннем фактаў.

На заканчэнне сустрэчы Ежы Бісяк абяцаў, што пастараецца знайсці хоць частку сродкаў на „Бардаўскую восень”, якая плануецца на канец кастрычніка.

**Мікола Ваўранюк**

## ЛЮДЗІ І ФАКТЫ (1939—1941)

У лістападзе 1993 г. Інстытут палітычных даследаванняў Польскай акадэміі навук сарганізаваў канферэнцыю, прысвечаную польска-беларуска-літоўскім адносінам на Заходняй Беларусі і Віленшчыне ў 1939—1941 гадах. У канцы жніўня г.г. паказалася ў кнігарнях фірмы ORPAN кніжка[1] з дакладамі, зачытанымі на гэтай канферэнцыі і стэнаграмамі дыскусіі вакол прадстаўленых тэмаў. Асаблівасцю канферэнцыі, а затым і кніжкі, ёсць асвятленне кожнай закранутай праблемы з пазіцыі польскіх, беларускіх і літоўскіх гісторыкаў. У адрозненні ад іншых апублікаваных да гэтай пары матэрыялаў, няма ў кніжцы аднае праўды. Кожную праблему ці гістарычную падзею інакш бачылі палякі, чым беларусы. А гэта не толькі таму, што карысталіся яны іншымі крыніцамі. Змешчаныя побач сябе выказванні гісторыкаў з розных краін і розных нацыянальнасцей, паказваюць агульнае імкненне прадставіць „сваіх” у як найбольш прывабным выглядзе. Тое, што беларусам было партызанскім змаганнем за нацыянальную свабоду, палякам бачылася бандытызмам і наадварот. Тое, што літоўцы называлі вызваленнем, палякі — акупацыяй. Інтэрпрэтацыя паасобных фактаў была залежная ад дзяржаўнай ці нацыянальнай рацыі, якую прадстаўлялі паасобныя гісторыкі. Напрыклад, калі палякі гаварылі пра амаль мільён сваіх суродзічаў рэпрэсіраваных савецкімі ўладамі ў Заходняй Беларусі ў 1939—1941 гадах, прафесар Аляксандр Хацкевіч з Мінска даказаў на аснове дакументаў НКУС, што гэтая сума перабольшана ў 10 разоў, чым было ў сапраўднасці. Не было згоды і на тое, як інтэрпрэтаваць Рыжскі трактат ці дзейнасць польскага падполля падчас нямецкай акупацыі. Ніколі, зразумела, поўнай згоды ў гэтай галіне не будзе. Найбольш увагі ўдзельнікі канферэнцыі ў сваіх дакладах і падчас дыскусіі прысвяцілі высвятленню што і каму абазначала слова „акупацыя” ў 1939—1941 гадах. Адказ на гэтае пытанне акрэсліваў затым, які характар на Беларусі мела прысутнасць савецкай і акаўскай партызанкі ў 1941—1944 гадах. Палякі не мелі ніякага сумнення, што 17 верасня 1939 г. пачалася акупацыя ўсходняй Польшчы. Саветы былі перакананыя, што яны асвабаджалі нейкую сваю тэрыторыю. Якое ж затым было здзіўленне ўдзельнікаў канферэнцыі, калі Алег Латышонак сказаў, што паводле незалежніцкіх беларускіх сіл акаўцы і савецкія партызаны прадстаўлялі толькі чужыя беларусам акупацыйныя рэжымы, якія былі часова ліквідаваныя іншым — гэтым разам нямецкім — акупантам. Але ні АК, ні савецкае падполле не мелі нічога супольнага з беларускімі нацыянальнымі інтарэсамі, хіба толькі тое, што абедзве сілы імкнуліся ліквідаваць усё, што беларускае.

Праўдападобна змест дакладаў, прадстаўленых на канферэнцыі і надрукаваных у кніжцы, ніколі не будзе выкарыстоўвацца ў распрацоўцы школьных падручнікаў, бо гістарычная праўда найчасцей не зыходзіцца з акурат абавязваючай „слушнай” лініяй. Кніжка выйшла тыражом у 600 экземпляраў.

рэд.

-----------------

1/ Społeczeństwo białoruskie, litewskie i polskie na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej w latach 1939—1941, Warszawa 1995, red. M. Giżejewska, T. Strzembosz, wyd. ISP PAN, s. 406.

*Віктар Ярмалковіч*

## НА ЖЫЦЦЁВЫХ ХВАЛЯХ

*(працяг; пачатак у 41 н-ры)*

### У Бярозу

Грукаталі колы, трашчалі і скрыпелі вагоны, імчаўся цягнік. За намі заставаліся палі і лясы, заходзіла і ўзыходзіла сонца, а нас усё везлі далей і далей. На станцыях цягнік прыпыняўся дзесьці далёка ад людскіх вачэй, часамі ў полі або ў лесе. Выглядала, што быццам бы везлі нас крадком.

Ад доўгага, нерухомага сядзення на цвёрдых лаўках балелі косці. У кожнай перагародцы вагона, якую з прахода пільнаваў адзін паліцыянт, знаходзілася па некалькі чалавек. Арыштаваныя былі папярэджаны, што пры самавольным уставанні або нейкіх раптоўных рухах паліцыя будзе страляць.

Вывозячы нас, есці ўжо нам не далі, але з гэтым не было вялікай бяды. Многія арыштанты мелі яшчэ падачы ад сем'яў. Кавалкі хлеба валяліся на падаконніках. „Бяры іх”, — падказаў Найдзюк, калі выводзілі нас з камеры. Я не меў нічога пры сабе, у што можна было ўзяць хлеб. „У кашулю”, — раіў далей Найдзюк. Я так і зрабіў. Зняў кашулю і загарнуў у яе кавалкі хлеба. Прыдаліся нам яны цяпер у дарозе і былі падтрымкай у далейшым.

### Прыём

Змучаныя дарогай доўга мы стаялі перад брамай лагера ў Бярозе. З абодвух яе бакоў цягнуўся высокі дашчаты плот, над якім былі праведзены калючыя драты. Не было магчымасці падглядзець, што там дзеецца ўсярэдзіне.

З агульнай групы вылучылі жанчын. Былі гэта пераважна кабеты пажылога ўзросту, некаторыя ледзь ішлі. Акружыла іх жаночая паліцыя і павяла налева. Я прыкмеціў, як маладыя паліцыянткі скрытна даставалі палкі.

Мужчын трымалі яшчэ нейкі час, пакуль віленская паліцыя не закончыла весці перагаворы з мясцовымі паліцэйскімі. Потым яны адышлі, а нас акружылі бярозаўскія паліцыянты, якія маўкліва і па-воўчаму глядзелі на нас. Раптам адкрылася брама і пачаліся мітусня, крыкі і ўдары. Паліцэйскія далі каманду: „Бегем!” і сталі збіваць палкамі. За брамай расстаўленыя радамі паліцыянты з падабранымі крыміналістамі віталі прыгнаных арыштантаў новымі ўдарамі палак і кіёў.

Маладыя вязні вырываліся наперад, кідаліся ў сярэдзіну натоўпу. Удары не дасягалі іх або дасягалі рэдка. Іншае было палажэнне старых, хворых і калекаў, а такіх было каля паловы.

Так напалоханых і збітых увагналі нас у адну з загарадак, на якія калючым дротам падзелены быў пляц. У кожнай загарадцы, абведзенай дротам вышынёй у чалавека, сядзелі людзі такія ж як і мы. Па вонкавых сценах лагера стаялі вышкі, а на іх — стражнікі з кулямётамі, накіраванымі ў наш бок.

Над намі высілася пагоднае, сіняе неба, грэла і свяціла яснае паўднёвае сонца, а адзін з нашых таварышаў нядолі, выцягнуўшы ўбок рукі, круціўся навокал. Ён не бачыў.

### У камеры

На пляцы, у загарадцы, загадалі нам выстраіцца ў два рады, а адзін з паліцыянтаў, з выгляду тыповы крыміналіст, доўга правіў нам казанне аб тым, як мы павінны шанаваць „айчызну”. Сваё выступленне перарываў ударамі палкай па вязнях. Навучаў і біў. Біў за ўсё. Адных за тое, што яны кепскія патрыёты, другіх — што стаялі не так, як ён патрабаваў. Чыгуначніка з Яшун пабіў з прычыны ордэнскай планкі, якая была прышпілена да лацкана пінжака. А планку дзяржаўнай адзнакі, якую той атрымаў за нейкія там заслугі, сарваў ён з грудзей і кінуў пад ногі. Пасля такіх і падобных сцэн прыказалі нам аддаць дзяжкі, гадзіннікі і іншыя каштоўныя прадметы. Забралі гэта ўсё быццам бы ў дэпазіт.

Прастаялі мы на пляцы да вечара. Пасля загналі нас у будынак, у камеру. Стаялі там трох'ярусныя, збітыя з дошак нары. На іх, чалавек пры чалавеку, мусіла памясціцца каля стапяцідзесяці асоб. У першы дзень есці нам не далі, але былі яшчэ кавалкі хлеба забраныя з Вільні. Пасля такога прыёму есці не хацелася. Але хацелася піць. Вады, аднак, таксама не далі. Ад смагі нельга было заснуць, а заснуўшым снілася вада.

### У загарадцы

З усходам сонца выгналі нас на пляц у загарадку. Найперш пагналі „да ўбікацыі”. Была гэта вялікая і глыбокая яма, над якой былі пракладзены дошкі. На каманду трэба было на іх сядаць і на каманду падымацца. Хто не паспеў тэрмінова справіцца з патрэбай, таго кіем падымаў памочнік паліцыянта, крыміналіст, або палкай сам паліцыянт. Абязводжаны арганізм калі і мог што выдаліць, то з вялікай цяжкасцю. Так трэба было і мучыцца.

Не дазвалялася нам хадзіць спакойна. Усё трэба было рабіць толькі „бегем”, бо інакш спадалі на плечы ўдары гумовых палак. А білі вязняў пры кожнай нагодзе.

У загарадцы вылучанай з вязняў асобе, якая прайшла вайсковую службу, загадвалі праводзіць са зняволенымі муштру, каб толькі людзі не стаялі. Спосаб вядзення муштры і спосаб яе выконвання кантраляваліся паліцыянтамі. Калі хто кепска выконваў каманды, атрымліваў порцыю ўдараў палкай. Трымалі нас на пляцы цэлы дзень. Там нас муштравалі, кармілі і білі.

Для яды давалі на дзень двухкілаграмную буханку хлеба на 10—15 чалавек і чарпак „зупы”, у якой калі плавала пяць або шэсць крупінак дык было добра. Суп налівалі ў алюмініевыя міскі, якія трэба было вярнуць чыстымі. „Мылі” мы іх тады сабраным пяском з-пад ног, а выціралі рукавом або крысом пінжака ці кашулі. Вады не было. А неба было чыстае, без ніводнай хмаркі, з яркім, гарачым сонцам. Далёка за лагерам цямнеў лес. Як жа мне хацелася быць у ім, а не тут, у загарадцы.

Па нейкім часе ад муштраў, голаду і смагі арганізм аслаб. Паліцыянты крычалі: „Бегем!”, а ногі станавіліся штораз цяжэйшымі і падымаць іх было не пад сілу. Нялёгка паміраць павольнай смерцю. Такую сітуацыю ў нейкай меры аблягчалі самалёты. Калі надляталі яны над лагер, паліцыянты загадвалі: „Падній!”. Добра тады было паляжаць на пяску і адпачыць крышку. З кожным днём самалётаў над лагерам паяўлялася штораз больш. Былі дні, калі трымалі нас увесь час у камеры. Тады раз-пораз у камеру ўрываўся паліцыянт і палкай наводзіў парадак. Сярод вязняў быў адзін псіхічна хворы чалавек. Ён не мог зразумець, якога парадку патрабуе паліцыя, сыходзіў з нараў і пачынаў нешта гаварыць. Паліцыя лупцавала ўсіх без разбору, а часцей за ўсіх пад дубінку пападаў той хворы. Пасля некалькіх дзён ён страшэнна спух. Што з ім пазней сталася, гэтага не ведаю.

У палове верасня паліцыя стала выклікаць вязняў па спісках і забіраць іх з сабою. Што з імі? Выходзяць на волю ці перавозяць іх у іншае месца? Для нас, астаўшыхся ў камеры, гэтая справа была невядомай.

*(працяг будзе)*

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Як нашы прабабкі ўвосень варажылі

Увосень звычайна дзеўкі варожаць пра хуткае замужжа па знойдзеным „спарышы” ці на двух зрошчаных між сабою арэхах.

*

На Пакровы дзяўчаты варожаць наступным чынам. Лісце кідаюць з хвартуха па ветру з прыполу, куды лісце паляціць — туды і дзяўчына замуж пойдзе (Брэсцкі р-н). (Зап. ад пісьменніцы Клаўдзіі Каліны).

*

На Пакроў... дзяўчаты варожаць пра замужжа — пякуць салоныя блінчыкі, якія перад сном з'ядаюць з просьбаю, каб суджаны іх напаіў.

*

На свята Пакровы каля паўдня разломваюць некалькі ці некалькі дзесяткаў „дубовых яблык” і лічаць, у кольках з іх знаходзяцца мухі, а ў кольках чарвякі. Калі мух будзе болей — гэта значыць, што зіма чакаецца марозная, а снегу мала; калі ж пераважаюць чарвякі, то зіма акажацца лагодная і вельмі снежная.

*

На Маладзечаншчыне „на Багародзіцу” (Увядзенне) варажылі, наламаўшы вішнёвых галінак і паставіўшы іх у бутэльку з вадою за абраз. Перад багатай куццёю, напярэдадні старога Новага года, на 14 студзеня глядзелі: калі галінка расцвітала зусім — гэта быў добры знак, калі ж засыхала — наадварот. Гэтак варажылі не толькі на замужжа, але наогул на будучы лёс чалавека.

*(Паводле фальклярыстычных зборнікаў)*

## Школа н-р 3 у Гайнаўцы



У гайнаўскай Пачатковай школе н-р 3 больш за 200 вучняў. Беларускую мову вывучае 30% дзяцей.

— Самая цікавая і надзейная праца ў малодшых класах, — гаворыць настаўніца беларускай мовы Марыя Магрук.

У I і II класы прыходзяць вучні і хочуць вывучаць мову. Тут не выражаюць эмоцыі, а проста практычны бок справы. Усе яны хочуць паступіць у белліцэй, найбольш прэстыжную ў наваколлі школу.

— А так, як усюды, пастаянны клопат з дзецьмі. Заўсёды нехта адыходзіць, нехта даходзіць і таму праца нялёгкая, — гаворыць настаўніца.

На сустрэчы з VIII класам „Зорка” пазнаёмілася з Эляй Русак, Даркам Яканюком, Касяй Тамчук, Ірэнай Васілюк, Аняй Сачко, Аняй Граматовіч, Ізай Ягораў і Эляй Вешавец.

Некаторыя дзеці ходзяць на ўрокі беларускай мовы ад трэцяга класа, большасць аднак вучыцца ўсяго 2—3 гады. Сярод васьмікласнікаў цікавая моладзь. Усе гаварылі пра свае зацікаўленні — пра музыку, літаратуру, мастацтва, тэатр. Як цікавінку адзначу, што пасіяй Ізы Ягораў з'яўляецца граматыка. Рэдкае гэта зацікаўленне таму і такое каштоўнае і патрэбнае.

„Зорка”

## Польска-беларуская панарамная крыжаванка н-р 2

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў што на польскай мове. Адказы дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем узнагароды — альбомы для фотаздымкаў і запісныя кніжкі.

MIASTO
ŁAWA
MARZENIE
WSTYD
SOWA
KROWA
WODA
SAD
RODZAJ

**Адказ на магічную крыжаванку з 39 н-ра:** кава, арол, воўк, галка.

Запісную кніжку з аўтаручкай атрымоўвае **Паўліна Куптэль** з Гайнаўкі.

## КОНКУРС

**Назавіце прынамсі два гарады, якія былі сталіцай Беларусі.**

Аўтары правільных адказаў прымуць удзел у жараб'ёўцы касет гурту „Белы сон”.

***

Рашэнне конкурсу з 39 н-ра:

Кандыдатам на Нобелеўскую прэмію з'яўляецца народны пісьменнік Беларусі **Васіль Быкаў**.

Касету гурту „Белы сон” ва ўзнагароду атрымае **Андрэй Куптэль** з Гайнаўкі.

***

Адказ на конкурс пра восеньскія кветкі. Дзеці найчасцей называлі астры, зімоўкі, хрызантэмы, вяргініі.

Ва ўзнагароду кніжку пра кветкаводства атрымае **Аня Селеванюк**, вучаніца VI кл. з Чыжоў.

## Скорагаворкі

З горкі-горачкі, дзе грэчка,
ручаёк прыбег да рэчкі.

*

Пад вываратамі вавёрка ўе вяроўкі лоўка.

*

Рак-гарэза з рыбай разам
З рэчкі рыбака дражніў,
А рыбак у рэчцы ракаў
Разам з рыбаю лавіў.

З-ка




### Прывітанні табе, „Зорка”!

Мяне завуць Грыша Врублеўскі. Вучуся я ў школе нумар 3 у Бельску-Падляшскім. Хачу Табе расказаць пра свае канікулы.

Канікулы пачаліся ў канцы чэрвеня. Пачатак канікул быў дажджлівы і халодны. Пазней было сонечнае надвор'е. Канікулы я правёў дома і ў бабулі. У бабулі я гуляў з сябрамі. Хадзіў на рэчку і ў лес, іграў у мяч. Аднойчы я разам з татам і братам паставілі на панадворку палатку. У дзень мы гулялі ў палатцы. Я рашыў таксама, што буду спаць у ёй. Раней я ніколі не начаваў у палатцы. Я прыгатаваў пасцель і пайшоў спаць. Засну ў вельмі хутка. Спаў некалькі гадзін. Потым мяне разбудзіў брэх сабакі. Я ўстаў. Мне здавалася, што хтосьці ходзіць навокал палаткі. Я злякаўся, не мог зрабіць кроку. Сядзеў я так некалькі хвілін. Потым я ўзяў пасцель і ўцёк дахаты. Раніцай я ўбачыў каля палаткі некалькі малых кацянят. Я зразумеў, што сабака на іх брахаў. Мне зрабілася смешна і сорамна. Канікулы мінулі вельмі хутка. Першага верасня пачаўся новы школьны год і зноў трэба вучыцца.

**Грыша**

**Ад рэдакцыі:** Прывітанне Грышка! Твае незвычайныя ўспаміны прыгадалі незабыўныя канікулы. Напамінаю, што будзеш удзельнічаць у штомесячным конкурсе „Зоркі”. Успаміны іншых вучняў з бельскай „тройкі” надрукуем у наступных нумарах.

### Вітай, „Зорка”!

Завуць мяне Юліта. Я вучаніца шостага „э” класа ў школе нумар 3 у Бельску-Падляшскім. Я вельмі люблю беларускую мову. Нашай настаўніцай па гэтым прадмеце ёсць Валянціна Бабулевіч. Мы на ўроках будзем чытаць „Зорку”. Я хацела б, каб у „Зорцы” былі загадкі, цікавыя апавяданні, вершы, інфармацыі пра дзяцей, якія вучацца беларускай мове ў розных школах.

Я хачу расказаць пра нашую школу. У гэтым годзе мы на ўроках гімнастыкі займаемся ў новай спартыўнай зале. Яна вельмі вялікая, прасторная. Мы гуляем у мяч, спаборнічаем з іншымі класамі. Усе вучні апрануты ў чорна-белыя касцюмы. Кожны ў нас цяпер любіць урокі гімнастыкі.

Жадаем табе, „Зорка”, усяго найлепшага і многіх чытачоў.

**Юліта**

**Ад рэдакцыі:** Каханая Юлітка, мне вельмі прыемна, што Ты любіш беларускую мову, а таксама пішаш пра свае прапановы для „Зоркі”. Можа станеш нашай карэспандэнткай?

## Загадкі н-р 1

1/ Цераз палі, цераз лугі спусціліся канцы дугі.

2/ Мяне ўсе просяць, мяне ўсе чакаюць, а як з'яўлюся, хавацца пачынаюць.

3/ Каля носа ўецца — у рукі не даецца.

4/ Расце каранём уверх, так і памірае. Хто адгадае?

Адказы дашліце ў „Зорку”. Калі вы адгадаеце правільна хаця б дзве загадкі, возьмеце ўдзел у жараб'ёўцы цікавых узнагарод.



Першакласнікі са сваёй паняй Барбарай Лазовік.



Танцавальны гурток Бельскага дома культуры рыхтуецца да выступленняў.

# Свята ў „тройцы”

Пачатковая школа н-р 3 у Бельску-Падляшскім, дзе ўсе вучні з другога класа вывучаюць беларускую мову, упамінаецца на нашых старонках вельмі часта. Многа там таленавітых аўтараў, якія дасылаюць нам прыгожыя вершы. Ад вучняў „тройкі” атрымліваем таксама цікавыя лісты.

23 верасня г.г. у школе было вялікае свята — урачыстае адкрыццё гімнастычнай залы. Пра самую ўрачыстасць пісалі мы ўжо ў „Ніве” з мінулага тыдня. А цяпер прапануем фотарэпартаж Міколы Ваўранюка з мастацкай часткі, якая завяршыла афіцыйнае адкрыццё спартзалы.



Спявае Эмілька Астапчук — салістка "Дзявочых нотак" з Беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча (выпускніца "тройкі").



Дзяўчынкі са школьнага хору слухаюць іншых выканаўцаў.



... і закружыліся ў чароўным вальсе Бартэк Нядзведзкі і Юстына Кшывец.

# ЛЕГЕНДЫ БЕЛАСТОЦКАЙ ЗЯМЛІ

## Шлюбная кашуля

Сяму-таму, заслуханаму ў сказы пра колішнія дзеі, можа здацца, што былі гэта часы надта ж цікавыя, казачна каляровыя. На жаль, такімі яны явяцца, калі на іх глядзець цераз захінаючую ўсё бесчалавечнае і дзікае заслону даўнасці і забыцця. Гэтая чароўная красачнасць мінулага жывіцца пераважна тугою розных паноў і падпанкаў, або іхніх нашчадкаў за беспаваротна адышоўшымі ў небыццё часамі паншчыны ці іхняга панавання, калі з простым чалавекам яны абыходзіліся горш, чым з быдлам.

Вось у Вайнахах каля Саколкі жыў-быў у тыя часы здаравенны і небывалай павабнасці юнак. Бывала, на кожную ягоную распрастаную руку начэплівалася па два-тры дарослыя чалавекі, але сагнуць аніяк не змаглі. Ён жа як павернецца навокал сябе, дык тыя шыбуюць, быццам на круцёлцы. Дзяўчаты ж не тое, што з усяго сяла, але і з усяе ваколіцы глядзелі на яго, быццам на святы абразок у касцёле — проста забываліся пра свет белы, юнаком тым любуючыся. Пажадлівым вокам пазіралі на яго таксама ганарыстыя баяркі-шляхцянкі са шляхоцкіх аселіц як і рассыпаных па наваколлю фальваркаў. Але юнак-асілак на іх нават і брывом не вёў. Ён упадабаў сабе простую дзяўчыну-красуню, дачку ўдавы-парабчанкі. Палюбіўся і ён дзяўчыне.

Змовіны, як тады вялося ў паншчынных сялян, адбыліся вечарком пры веснічках, а пра розгляды ды лады і мовы не было, бо пра якія ж там багацці ды прыданае парабчанкі ды паншчыннага селяніна маглі ісці агляды ды перамовы.

Пайшлі маладыя ў двор, упалі на калені перад панам, просячы дазволу на шлюб. Калі той згадзіўся, падаліся яны да ксяндза, каб дзень шлюбу назначыў. За ўсе гэтыя панскія ды ксяндзоўскія ласкі маладыя мусілі падгадзіць гасцінцамі або адробкам. Ну і пачалася падрыхтоўка да вяселля. Маладая кашулю вышыла свайму кахanаму, а малады ў заробкі падаўся, каб сваёй любай шлюбныя боцікі набыць.

Ну і настала тая нядзеля, калі пачалося вяселле. Складалася на яго ўсё сяло. Пад вясельны карагод староста адабраў найлепшыя вазы і коней. Апранутыя ў святочныя вышываныя сукенкі ды абутыя ў пастолікі дружкі прыбралі іх каляровымі папяровымі стужкамі, услалі ўзорыстымі радзюжкамі. Дружбанты апранулі чыстыя кужэльныя нагавіцы, кашулі ды абулі новенькія, пад вяселле плеценыя, пасталы. Стараста выдаў маладому пару грамадскіх ботаў. Яны былі набыты колькі гадоў таму ўсёй вёскай і пазычаліся толькі таму хлопцу, што жаніўся, каб у касцёле на шлюбе ў пасталах не стаяў.

Паехаў малады са сваімі дружкамі і дружбантамі да маладое. Завёз ёй шлюбныя боцікі, а маладая яму вышываную шлюбную кашулю дала. Маладая тут жа абула боцікі і аж засмяялася ад задавальнення — на яе нагах упершыню праўдзівы абутак красаваўся. Маладому таксама ад вышыўкі на падараванай кашулі аж вочы разбягаліся — такая яна была прыгожая.

Пасля шлюбу ўсё сяло ў карчме гуляла, ажно гліняны ток пад парэпанымі пятамі трэскаўся ды музыка ад стомы ледзь смыкам па струнах цягаў. Што ж, забава мілая, ды ноч кароткая. Як толькі з-за лесу выхілілася сонца, трэ-ба было маладому на паншчыну ісці. І ён, як гуляў, так і пайшоў пад палацовую браму, спадзяючыся, што аканом з нагоды вяселля вызваліць яго ад работы.

Там жа, нягледзячы на такую рань, пана нячыстая сіла вынесла прасачыць, як ягоны аканом з прыгоннымі ўпраўляецца. Як звочыў ён, што хлопец у чыстай кашулі на работу прыйшоў, так са злосці і збялеў. „Ты што, на пана захварэў?! — закрычаў і паказаў хлопцу на агромністую лужыну перад хлявамі, дзе свінні калюжыліся, ды загадаў: — Кладзіся з імі, хаме!..”

Пан жа той такі гнілы ды плюгавенькі быў, што даволі было б таму юнаку пальцам ткнуць і дух бы з яго выскачыў. Што ж вы думалі? Апусціў хлопец галаў, пайшоў і лёг у калюгу, выкачаўся разам са свіньмі ў сваёй шлюбнай узорыстай кашулі, падаўся на панскае поле на работу і слова не прамовіў.

Вельмі шкадаваў ён сваю маладзенькую прыгажуню-жоначку, каб на першы дзень па шлюбе ўдавою не засталася, ды і самому жыць надта ж хацелася.

*Пачуў і пераказаў*
*Мікола Гайдук*

---

**Стараста** — сёння: солтыс.
**Пасталы** — колішні мяккі абутак з цэлага кавалка скуры, які насілі на абгорнутых анучамі нагах і прывязвалі аборамі (тонкімі вяровачкамі або раменнымі супонямі).

# Месца для птушкі

Пра творчасць Віктара Волкава, майстра мастацкай фатаграфіі і даўняга сябра нашай рэдакцыі, — пісаць прыемна, але і нялёгка. Так і баішся, што нейкае не цалкам трапнае слоўца разбурыць усю чароўнасць гармоніі Віктаравага свету, недарэчна парушыць яго нетыкальнасць і хараство.

У дзіўным свеце Волкава, такім цудоўным і такім смутным, усё праміпае, кудысьці адлятае, з некім развітваецца. Птушка сумная тут перад адлётам у вырай, і вада ў рацэ смуткуе, што ўжо ніколі не вернецца такая самая ў нашы берагі.

Матыў праміпання пастаянна прысутны ў творчасці Волкава. Бачым, як змяняюцца поры года: ажыўляючая вясна з ручаямі, разлітымі рэкамі, сіняй імглой; летні зялёны лес і жыта, у гняздзе сядзіць бацян і плыве па возеры качка, гамоняць праз плот коні; карычневая восень з пасучыміся на выгане авечкамі і проста галінка з сухім лісцем дуба; зіма, якой у творчасці Волкава мо і найбольш — з адзінока тырчачым жоравам над студняй, з замерзлым чоўнам у рацэ, з галінкамі елак, прыгнутымі да зямлі ад цяжару снегу. Адзінай сутнасцю пастаянства нашага свету — яго зменнасць, гаворыць, здаецца, Волкаў.

І толькі маўклівыя крыжы, нямыя сведкі ўсіх падзей, — пахіленыя і простыя, знішчаныя і дагледжаныя, у чыстым полі і сярод дрэў, у лесе і на вёсцы, малыя і вялікія, тоўстыя і тонкія, моцныя і далікатныя, рэзбленыя і звычайныя, з металу і каменя, з цэменту і дрэва, або і проста з бярозавай белі, крыжы ў капліцах і ў жыце, у снезе і ў імгле, на могілках і прыдарожныя, — толькі яны бязмоўна пераконваюць, што для нас вяртання няма. Усё, што нараджаецца, мусіць памерці. Мёртвыя птушкі, нежывое птушаня ў заросніках, здохлы конь з адкінутымі капытамі...

Ёсць у Волкава здымак: зямля і неба, а між імі — месца толькі для птушкі. Гэты здымак успомніўся мне, калі аглядала я апошнюю выстаўку прац В. Волкава пад загалоўкам „Мае палёты".

Каму б не хацелася глянуць на сваю зямлю з вышыні! Знізу Волкаў ужо схадзіў яе, з'ездзіў, пераплыў лодкай. Заглыбляўся ў пушчу, дзе падглядаў лес, звяроў і птушак, у гумоўцах хадзіў па балотах, сядзеў там гадзінамі, каб нешта падгледзець („Нядаўна я ледзь не ўтапіўся, два разы так засасала..."), ездзіў зімою на лыжах у найбольш недаступныя закуткі Беласточчыны. Пастаянна, заўсёды. Інакш — чаго ж было б жыць?!

Калісьці жонка Волкава паехала ў Грэнобль, у Францыю, да цёткі. „А ты?" — спыталася я. „А на халеру я там буду тырчэць?!" — з пэўнай дозай здзіўлення, што можна было задаць такое пытанне, адбуркнуў Віктар. Так, абшар яго зацікаўленняў абмяжоўваецца паўночна-ўсходняй Беласточчынай. Тут ён нарадзіўся, тут усё найлепшае, найпрыгажэйшае. Тут усё ягонае.

Ужо дзесяць гадоў Волкаў робіць здымкі з паветра. Атрымаў дазвол, але такія палёты паглыналі большасць яго заробкаў. Часамі і дзесяць мільёнаў за адзін палёт плаціць. А пілоты яго любяць. Нешта яднае іх: паляцяць увысь, глянуць на зямлю зверху. Лётаюць то „Гаўронам", то „Якам".

— Найгорш, — кажа Волкаў, — што за гэтых дзесяць гадоў толькі два разы зіму злавіў. Найлепшыя здымкі выходзяць, калі мала снегу. Рака мусіць плысці, разумееш? — кажа. — Толькі тады ёсць эфект.

І сапраўды, эфекты ёсць. На здымках бачым рэкі-вужы, стагі-кропкі, голыя дрэвы-сіроты, снежныя плямы.

А вось і летнія краявіды: дрэва як сук, роўненька заараное поле, а палоскі зялёных кустоў чорных парэчак, пераплеценыя з жоўтым малачаем — амаль копія жоўтазялёных карцін Лёніка Тарасэвіча.



— Ужо ў гэтым годзе я не зрабіў ніводнай фуры з сенам, — уздыхае Волкаў, — усё возяць прасаваныя цюкі. І той стог, які бачым на выспе, ужо таксама, на жаль, з цюкоў.

Спіраллю ўюцца Нарва і Бебжа. Адзін здымак ахоплівае каля чатырох кіламетраў. Відаць чайкі над ракою, а тут зубры, лебедзі, ласіца сярод дрэў. Усё сфатаграфавана з паветра.

— Калісь пад Талькоўшчынай, — расказвае Віктар, — у снежні, сустрэў стада шасцідзесяці аленяў. Цуда! Бадай у Еўропе такога ўжо няма.

Існоў поры года. Узаранае поле, зверху — быццам нейкая чарапаха, а тут — ці не араў яго п'яны трактарыст? Жоўтая пляма малачаю пасярод свежай веснавой зелені. Чырвоныя бярозы — позняя восень. Дзве лодкі сярод зімовых чорна-белых плям, ільдзіна пасярод ракі.

Момантамі здаецца, што аглядаеш нейкі незнаёмы, касмічны краявід, сфатаграфаваны на іншай планеце. Трэба толькі прыгледзецца, каб зразумець яго.

— ... Трыццаць гадоў ганяюся па Беласточчыне, раблю ўвесь час тое самае, трачу на палёты, на плёнкі, на здымкі, — уздыхае Волкаў. — Нават на боты не заробіш... Жонка наракае, дачка наракае.

А я слухаю і думаю: месца для птушкі. Жыве між зямлёй і небам. Няшмат ёй трэба. Але лётае!

**Ада Чачуга**

P.S. У 1973 годзе Віктар Волкаў першым з Беластока быў прыняты ў Саюз польскіх мастакоў-фатографаў. Атрымаў больш за сто медалёў і ўзнагарод за свае дасягненні. Выстаўкі — у Польшчы і за граніцай.

**А.Ч.**

---

*ЛАРЫСА ГЕНІЮШ*

## Урывак з незакончанай паэмы

Сярод загадаў чужых нялюдзкіх,
Дзе права жыць нам даюць, як ласку,
Стукоча сэрца па-беларуску,
І сэрцу цяжка.
Ад сіл варожых у краі аж грузка,
Народ зьняволіць, аднак, не проста.
Стукочуць сэрцы па-беларуску
За зьдзекі — помстай!
Ля ніў айчынных забраных сёлам,
За мову продкаў, што хочуць сьцерці,
Па-беларуску нясцерпным болем
Крывавяць сэрцы.
Насупраць праўды, насупраць
брацьцяў,
Гэтай варожай ласцы-няласцы
На родных землях у бацькавай хаце
Сэрца не дасца!

Холад мне, холад у камерах цёмных:
Праз боль да мэты,
Сьлядоў шукаю на сьлізкіх сьценах
Другіх паэтаў.
Сюды мучэньняў і сьмерці тайны
Яны прынесьлі,
Ад іх цярпеньняў, ад іх адчаю
У камерах цесна...
Малая птушка дзюбкай аб шыбу
Рве скамянеласьць,
То прывітаньні нясе ад сына
Майго нясмела.
Страшныя рукі, чорныя рукі,
Ліпкія пальцы,
Не аплятайце ў сьмяротных муках
Шыі дзіцяці!
Цела людзкое цяжка з табою
Як не звучыць?
Цела не ўмее прэснай бурдою
Гадамі жыць...
У вісках ад болі,
У вачах ад сонца
Туманны вір,
Цела людзкое, як я шкадую,
Што не факір...
Не спяць начамі да сонца ўсходу
Усе кажаны,
Мяне начамі спіральлю сходаў
Вядуць яны.
Допыты, допыты — хітрасьць
і грозьбы,
Стукне кулак,
Толькі ва ўпарты лоб мой бясстрашны
Не б'юць, аднак.
Дзікія вочы злосьцю шалеюць,
Словы, як бруд:
„Ві пакідайце свае надзеі
Усе, хто тут!"
У руках шалёных жыцьцё і доля
Кожнага з нас,
О, лёс народу ў паднявольлі,
О, страшны час!
Усе чужыя, усе не нашы,
Няма сваіх.
Зьмітрок Бядуля, табе не страшна,
Не ўстыд за іх?
Страшны Цанава, як Берыя крывавы,
Я перад ім.
Ногі бы з ваты, сілаў, здаецца,
Няма зусім...
Няма і страху перад тыранам,
Няма і сьлёз,
Стаю вярбою, а ўжэ жывот мой
К хрыбту прырос.

„На якой мове з табой гаварыць,
Знаеш расейскую,
Можа, выклікаць перакладчыка,
Можа, па-чэску?"
„Вы жа міністар на Беларусі,
Дык гаварэце, як тут належыць,
Па-беларуску!"
„Не, па-расейску ты загаворыш", —
Грыміць Цанава,
Мовы ён нашай знаці — не знае,
Ад злосьці шэры
Біч, для народу, скула ліхая
П'ўкай на сэрцы!
Бесіца люты і мне жадае...
Суддзі не суддзі,
Быццам не людзі,
Скалы сядзяць:
„За беларускасьць няхай вам будзе:
Лет 25!"
Так паўстагоддзя разам абоім
Годзе...
Падымі свае вочы, паглянь,
Стаў ля нас цень пакутаў і сьмерці,
У сонцапёк, ля зялёных палян,
Нам ужо болей з табой
Не сустрэцца...

Ноч у Менску, на сьнегу агні,
Прабіваюцца ў вогкія вочы,
Канваіры з штыкамі і мы,
Толькі цень, сына цень
Побач крочыць...
Рукі выцягнеш — пуста, аднак,
Скажаш слова — яно без адказу,
А маленькі, нябачны юнак
Крочыць ножкамі, быццам разам...

*З асабістага архіва П. М. Марціноўскага. („Голас Радзімы", н-р 35 ад 14.09.1995 г.)*

*БАРЫС РУСКО*

## Дзе мы

1

Вуліца ў неонах,
і людзі ў неонах,
а іголку бачна здалёк,
а самаход, як сабака,
бяжыць за зайцам,
а тэатр у смокінгу,
а дзяўчына ў залатых рамках
у акне,
а ноч рабочая,
і транспарант: „Мы хочам
любові".

2

Хаваюць без трунаў,
канвеерна,
у супольных магілах.
І ніхто не патрабуе пашаны,
хоць двух слоў развітальных,
хоць ініцыялаў на пяску.
А зараза кладзе ўпокат,
а людзі не ўмеюць крычаць,
бо хто крычыць у пекле.
У святыні забілі ўсіх,
а святар пасярodку — стаіць
і маўчыць,
а сляза акамянела на твары,
а рукі застылі ў паветры,
а кроў крыжам стала.
І толькі свечка шчыміць,
як хворы зуб чалавечы.

3

Маці плача,
забілі сына,
а манастыр побач,
а Бог далёка.
Маці плача,
забілі сына,
а рабін у модлах,
а Бог далёка.
Маці плача,
забілі сына,
а рака поўна болю,
а Бог далёка.

4

Яны могуць многа,
так многа,
што зямля ўкленчыць
і неоны згаснуць,
і час крадком уцячэ згэтуль,
і вецер кульгавы
ў вочніцы загляне.

5

Дзе вы,
што прыгарнулі
сіротку,
і вы,
вы, што гаворыце
аб любові?
Дзе ты,
вялікі розуме,
і звычайнае сумленне,
што плыве з сэрца?
Дзе?

6

А самалёт не падымецца,
а чало мішэнню,
а ў птушкі склееных пер'і,
а на сталe працівагаз,
ляжыць і чакае.

# Непагасная Лампада Духоўнасці

*Но иже долготерпелив есть Господь Бог... Сего ради покоримо пред нимъ души наши, и съкрушенным и смиреннымъ духомь рцимо... абы подле воли свои учени с нами милосердие...*
Біблія. Мінск. 1991. Т. 2. с. 626—627

31 жніўня на Вячэрні напярэдадні агульнабеларускага Свята пісьменства і друку запалілася ад Дабрадатнага Агню ад Гроба Гасподняга, што год гарэў ля ракі з мошчамі Святой Еўфрасінні Полацкай, Непагасная Лампада Духоўнасці, якая прайшла праз месцы, дзе раней былі славутыя Баркулабаўскі манастыр, былы палац Льва Сапегі ў Старым Быхаве, праз Рэчыцу — месцы прыпынку і ўшанавання Святых мошчаў вялікай Асветніцы зямлі Беларускай — ігуменні Еўфрасінні.

Па благаславенню Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі пры падтрымцы Міжнароднага фонду славянскага пісьменства і славянскіх культур склалася група паломнікаў на чале з епіскапам Васіліем Радзянка і архімандрытам Троіцка-Сергіевай лаўры а. Сергіем, і ў ноч з 19 на 20 мая Благадатны Агонь упершыню на параненай Чарнобылем Гомельскай зямлі перайшоў мяжу Украіны і Беларусі, з радасцю быў вітаны Беларуссю, а потым прайшоў і асвятліў Беларусь ад Гомеля да Мінска. Сустрэты на плошчы Незалежнасці, праспектам Скарыны з Хрэсным ходам быў прынесены да Кафедральнага сабора мітраполіі — Мінскага Свята-Духава сабора.

Гарыць Благадатны Агонь і ў Мінскім саборы Святога Духа. У мінулым годзе на Успенне Багародзіцы па благаславенню Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта Благадатны Агонь ад Гроба Гасподня асвяціў старажытныя цэнтры культуры і духоўнага жыцця Гродзеншчыны і Брэстчыны: Жыровічы, Баранавічы, Крашын, Святое Поле, Сталавічы, Палянічычы, Навагрудак, Лаўрушава... і першую сталіцу дзяржаўнага Свята беларускага пісьменства і друку — Полацак. Семдзесят пяць гадоў таму адбылося вяртанне на родную беларускую зямлю святых мошчаў Еўфрасінні Полацкай. Спачыла яна ў 1173 годзе ў час паломніцтва ў Іерусалім. Св. Еўфрасіння сталася яскравай прадстаўніцай беларускага праваслаўнага Адраджэння, першай жанчынай гэтага перыяду, прылічанай да святых, побач са св. Кірылам Тураўскім, св. Лявонціем Карповічам, св. Афанасіем Берасцейскім, а таксама з Ф. Скарынаю, адным з архетыпаў беларускай нацыі. Св. Еўфрасіння здолела ўзняц-ца над жыццём сваіх продкаў, якія пабіраліся, княжылі, здабывалі славу і паўміралі, але не мелі далучэння да вечнасці і слава іх гінула як прах. Вызначальнай рысай беларускага адраджэння, відаць, і была далучанасць да вечнасці праз пакуты і цярпенне, дабрыню і любоў-агапію.

Дабрыня, уласцівая славянам, была вялікай вартасцю, што здабыла ім асаблівую міласць Божую. І чысцінёй веры, пра якую гаварылі праведнікі, была любоў-агапія. З прыватнага жыцця святых мы па-сапраўднаму нічога не ведаем, бо жыццё іх ёсць любоў, а ўсё астатняе і не так істотна для святасці. Менавіта духам любові, „еже ест совершенна над все иные дарования, без нея же ничто проспешно ест” была прасякнута ўся навукова-творчая экспедыцыя „Дарога да святыняў — шляхам Еўфрасінні Полацкай”.

Агнём Непагаснай Лампады былі асвечаны і гаючыя крыніцы каля вёскі Гамарня. Існуе ў гэтых мясцінах паданне пра царкву, якая знікла ў нетрах зямлі, на месцы яе засталіся толькі гаючыя крыніцы. Вадой ад іх пазбаўлялі хваробы вачэй людзей і свойскую жывёлу. Побач з крыніцамі цяпер пабудавана Свята-Ільінская царква.

Месцам другога прыпынку экспедыцыі стаў славуты Баркулабаўскі Вазнясенскі манастыр, дзе каля 400 гадоў таму быў напісаны ледзь не самы поўны з ліку дайшоўшых да нас летапісаў пра прыватнае жыццё беларусаў. Вернікі спадзяюцца, што ім удасца яго адрадзіць. Мясцовыя жыхары ў сваёй хатняй царкве збіраюць і захоўваюць іконы, каб з часам унесці іх у адноўлены манастыр.

Амаль уся шматтысячная Рэчыца прыйшла вітаць Благадатны Агонь на цэнтральнай плошчы горада. Тут адбылося адкрыццё і высвячэнне капліцы ў гонар святой нашай апякункі. Аўтарам капліцы стаў заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Эдуард Агуновіч.

У 1910 годзе Рэчыцу дасягнулі мошчы св. Еўфрасінні. Мошчы святой знаходзіліся ў Рускім манастыры ў Іерусаліме. Пры вяртанні з Іерусаліма манахі даставілі мошчы ў Кіева-Пячэрскую лаўру.

Толькі ў 1909 г. імператар Мікалай II задаволіў просьбу палачан. Урачыстае богаслужэнне адбывалася ў Рэчыцы ва Успенскім саборы. З нагоды ўрачыстасці Мінскі епіскап Міхаіл у сваёй прамове адзначыў: „Адышла прападобная не без асаблівага прымусу Божага, далёка ад радзімы і засталася там сем стагоддзяў. Чаго не перапакутавала наша краіна за гэты час. І многія гады маладушныя нашыя суайчыннікі, асабліва магнаты і шляхта, не захоўвалі веры сваіх бацькоў. І быў час, што здавалася, край гэты амаль загінуў. Выратавала тады Беларусь толькі вера Праваслаўная, пра ўмацаванне якой так дбала св. Еўфрасіння”. Пра гэта і ішла гаворка ў час духоўна-асветніцкай канферэнцыі „Асветнікі зямлі беларускай”.

Завяршальны этап экспедыцыі — старажытны Тураў. Недзе каля 1146—1162 г.г. Тураў заваяваў сваю палітычную самастойнасць і вайсковую магутнасць. Тураўскае княства вызначалася і высокай духоўнай культурай. Не пазней 992 г. у Тураве была ўстаноўлена епіскапія, якая ў далейшым адыграла важнейшую ролю ў пашырэнні хрысціянства, а разам з ім і пісьменства на тэрыторыі Беларусі, адным са сведчанняў таго і з’яўляецца Тураўскае Евангелле. Найбольшым гонарам Тураўскай зямлі стаў святыцель Кірыла Тураўскі, ля помніка якому і завяршылася свята.

І асвечаныя Благадатным Агнём ад Гроба Гасподня Свята-Еўфрасіннеўскія капліцы ў Баркулабаве і Рэчыцы, святых Кірылы, Лаўрэнція і Марціна Тураўскіх у Тураве — другой сталіцы Свята беларускага пісьменства і друку, крыж каля былога палаца Льва Сапегі ў Быхаве — праз Благаславенне Благадатным Агнём ад Гроба Гасподня будуць множыць Поле Святла, аб’ядноўваць народы і ратаваць іх праз Еднасць і Любоў.

**Міра Лукша**

*Ля помніка Кірылы Тураўскага.* **Фота Яўгена Пясецкага**

# 18-я Нядзеля пасля Пяцідзесятніцы
## Залатое правіла

*(Лукі, 6:31-36)*

Згодна з устаноўленым парадкам, у 18-ю надзелю пасля Пяцідзесятніцы чытаецца ўрывак з 6-га раздзела Евангелля паводле Лукі. „Як хочаце, каб з вамі паступалі людзі, так і вы паступайце з імі. І калі любіце любячых вас (...) калі робіце дабро тым, што вам робяць дабро, якая вам за тое ўдзячнасць? Але вы любіце ворагаў вашых, і рабіце дабро, і пазычайце, не чакаючы нічога”.

Гэтыя словы часта называюць „залатым правілам” і ў гутарковым ужытку яны прынялі форму: „Не рабі другому таго, што табе самому нямілае”. Немагчыма трапней і карацей сфармуляваць ідэал міжчалавечых суадносін. Можна развіць гэтую думку ў сотні параграфаў і забаронаў, падрабязна акрэсліць чаго нельга рабіць, аднак усё роўна любы кодэкс зводзіцца да простага евангельскага правіла: „Паступайце з іншымі гэтак, як хацелі б, каб яны паступалі з вамі”.

Апостал Павел, заклікаючы мужа любіць жонку сваю як самога сябе, паясняе, што „ніхто ніколі не меў нянавісці да цела свайго, але жывіць і грэе яго” (Эф., 5:29). У запавеце любові да бліжняга таксама гаворыцца „любі бліжняга свайго як самога сябе” і гэты запавет не патрабуе вытлумачэння. Свядома чалавек ніколі не быў сабе ворагам. Наадварот, яму цяжка пераадолець у сабе і вывесці неадлучны чалавечай натуры эгаізм. Гэтую прыродную загану Евангелле намагалася паменшыць, усведамляючы людзям, што ўсе яны — дзеці аднаго Бога, а розніцы і падзелы паміж імі — другарадная справа. Паводле Евангелля не павінна быць розніцы паміж грэкам і іудзеем, абразаннем і неабразаннем, варварам, скіфам, рабом, свабодным, але ўсё і ва ўсім — Хрыстос (Кал., 3:11).

Тым не менш запавет любові надалей ажыццяўляецца марудна і павярхоўна. Пры ўсёй сваёй прастаце ён застаецца ідэалам, якога слушнасць прызнаюць усе, але да якога імкнуцца толькі некаторыя, а дасягаюць яго адзінкі. З другога боку, нават недасягнены ідэал адыгрывае сваю станоўчую ролю. Ён дапамагае змякчаць звычаі, гуманізаваць міжчалавечыя і міжнацыянальныя адносіны. Яго неаспрэчную карысць можна вытлумачыць на прыкладзе дарожных знакаў: не ўсе ім падпарадкоўваюцца, але што было б, калі б іх цалкам не было?

Само паняцце справядлівасці, на пункце якой усе вельмі чулыя і на якую любяць спасылацца, вымагае не рабіць другому таго, што сабе самому нямілае. З другога боку, вельмі цяжка балансаваць паміж супярэчлівымі паняццямі. Калі паспрабуем заўсёды паступаць справядліва, мусім адмовіцца ад спагады і міласэрнасці. Калі да ўсяго і ўсіх будзем ставіцца з любоўю і спагадай — гэта можа пярэчыць справядлівасці.

Як не дзіўна, старажытны прынцып „вока за вока — зуб за зуб” многія лічаць слушным і справядлівым. У вельмі каталіцкай Сіцыліі да сённяшняга дня практыкуецца „вэндэта” — сямейная помста, якая лічыцца нават ганаровай справай. Аднак помста і нібыта „справядлівае” пакаранне з’яўляюцца паўторам таго ж злачынства. Людзі наогул жангліруюць паняццямі дабра і справядлівасці ў залежнасці ад сваёй карысці, у адпаведнасці з кан’юнктурай. Вось некалькі прыкладаў. Камуністы ў былых савецкіх рэспубліках паднялі ў свой час вэрхал, што спыненне іхняй дзейнасці — незаконнае. Яны ж самі наогул незаконна захапілі ўладу, разагналі ўсе іншыя партыі і толькі цяпер ахвоча спасылаліся на плюралізм і дэмакратыю, якіх самі ніколі не прызнавалі. Калі пачалося разбурэнне помнікаў Леніна, скульптар Мікалай Кандрацьеў заявіў, што „ніхто і нідзе не мае маральнага права разбураць таго, чаго не стварыў”. Вельмі слушна, толькі якое права мелі бальшавікі разбураць тысячы не імі пабудаваных храмаў? Тым, хто не прызнаваў ніякай маралі не выпадае адклікацца да яе. З другога боку, калі б камуністам адплаціць гулагамі і расстрэламі, разагнаць іх і забараніць усякую дзейнасць — гэта была б помста. У Евангеллі сказана: „Якою меркаю мераеце, гэткаю і вам адмераюць” (Матф., 7:2). Можа гэта і справядліва, але ці гуманна? Адплаціць злом за зло, гэта значыць зніжыцца да ўзроўню ката.

Калі зараз у парламенце і на самых высокіх пасадах знаходзяцца людзі, якія дагэтуль прапаведавалі цалкам іншыя ідэі і рупліва служылі іншаму пану, калі народ згодны дараваць ім і забыцца пра мінулае, гэта значыць, што прынцып „не рабі другому таго, што табе самому нямілае” ўсё-такі ажыццяўляецца. Гэта значыць, што людзі робяцца больш чалавечымі.

**а. Канстанцін Бандарук**

22 верасня 1995 г. памёр **айцец мітрат Ян Юзвук**, вікарны парафіі св. прарока Ільі ў Беластоку. Пражыў ён 83 гады, у тым 45, выпаўняючы душпастырскія абавязкі. Працу на царкоўнай ніве пачаў у 1942 г. як псаломшчык Вярстоцкага прыхода Гродзенскай епархіі. Благаслаўленне атрымаў з рук архіепіскапа Беларускай аўтакефальнай царквы Венядзікта. У 1947 годзе быў пасвячаны архіепіскапам Цімафеем у дыяканы, а ў 1950 г. з благаслаўлення мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы Макарыя стаў святаром. У 1953 годзе айцец Ян Юзвук быў назначаны настаяцелем прыхода ў Рагачах, дзе прабываў роўна 20 гадоў. У 1973 годзе па волі мітрапаліта Васілія быў назначаны настаяцелем прыхода ў Кленіках, а ў 1980 г. пачаў душпастырскую працу ў дайлідскім прыходзе св. прарока Ільі ў Беластоку. Шчырасць і сумленнасць айца Яна ядналі яму прыхільнасць прыхаджан ва ўсіх месцах яго прабывання.

Айцец Ян пахаваны на дайлідскім могільніку, побач царквы, у якой служыў Богу і людзям больш за пятнаццаць гадоў.

**28 верасня 1995 г.**
**пасля цяжкой хваробы памёр**
**айцец мітрат**
## Антон Дзевятоўскі
**настаяцель Сабора Святой Тройцы**
**ў Гайнаўцы**
**Благачынны Гайнаўскага благачыння.**

**Глыбокае спачуванне сям’і**
**і ўсім блізкім**
**з прычыны напаткаўшага іх гора**
**выказвае**
**кіраўніцтва Грамадскага камітэта**
**пабудовы Беларускага музея**
**і Аддзел БГКТ у Гайнаўцы.**




## „Думкі, мае думкі”

*( Думкі ж мае думкі,*
*жамчужынкі? зданні?*
*А зазвоняць словам*
*— як на пахаванні...)*

Адклікаючыся на артыкул В. Петручука („Ніва” н-р 35), хачу сваё палемічнае выступленне пачаць жартам. Намер Васіля стаць падсудным чытачоў „Нівы” прыгадвае гісторыю аднаго італьянца (зваўся ён здаецца Д'ябэлі), які напісаў музычны твор, і каб выклікаць ім зацікаўленне, аб'явіў конкурс на найлепшую варыяцыю на яго тэму. Паколькі той Д'ябэлі быў багацеем, абяцаў за ўдзел шчодрыя ўзнагароды. Узнагародамі падзяліліся між сабой таленавітыя майстры музыкі. Аўтару ўзамен пакінулі частку сваёй векапомнай славы. Толькі Петручук спакушаецца стаць героем не на мастацкай ніве, яго карціць, каб уторкнуць кій у мурашнік палітычнага рознагалосся. А гэта ўжо рызыкоўная справа.

Чытаючы змест роздумаў Петручука, я спадзяваўся даведацца, што ён прапануе чалавецтву дзеля выхаду яго з незайздроснага палажэння на нашай планеце. А ён абмежаваўся толькі да каларытна-вобразнага паказання рэчаіснасці — дакідваючы да гэтага абвінавачванне рэлігій у грэшным уплыве іхнай навукі на людзей. Чаму выключна рэлігій? М. Танк пісаў, што рэлігія з'яўляецца часткай культуры грамадства і таму заслугоўвае на пашану, так як і іншыя дасягненні. Ну, але такая трактоўка справы можа выклікаць больш заўзятую спрэчку, больш шырокі абмен поглядаў, хаця спрэчка незаўсёды дае аб'ектыўныя вынікі. У грамадстве добра вядома тая ісціна, што чалавеку праўда непатрэбная — яму да шчасця неабходны вораг. Ворага можна ненавідзець, яго можна за ўсё абвінаваціць. А ўвогуле, хто жывучы з крыўды іншых будзе дазваляць, каб пра яго праўду ведалі? І нездарма кажуць: сярод жывых няма святых. Каб выказванні Петручука сталі больш яснымі (і прыгоднымі для спрэчкі) спрабую коратка выявіць свае стаўленні да некаторых з іх:

1) Калі праўда пра адзінага Бога можа быць толькі адна, а мы сустракаем сотні рэлігій, значыць, усе іх супярэчлівасці прыдуманыя чалавекам. Каго тады павінны абвінавачваць у фальшаванні ўсялякай праўды? Я хачу падкрэсліць, што вельмі сур'ёзна размяжоўваю рэлігію ад духавенства. Духоўныя, гэта ж толькі людзі, якія могуць часценька праяўляць схільнасць не толькі да сумленных паступкаў, але могуць і памыляцца ў розных справах.

2) Петручук піша: „бальшавікі, яны гінулі за Радзіму, за Сталіна...” Фанатызм, нягледзячы ці ён рэлігійны, ці палітычны, гэта з'ява антыгуманная, нагадвае цемру дзікуноў дагістарычнай эпохі. А мэтай бальшавікоў было не столькі гінуць, што забіваць іншых. Майму бацьку давялося ў 1920 годзе служыць на Украіне. Расказваў, як бальшавікі расстрэльвалі ўсіх мужыкоў у вёсках, дзе быццам Махно мог лічыць на папаўненне сваіх атрадаў. Да рэвалюцыі фундаментам маралі была рэлігія. Інтэрнацыянал заявіў: „Мы старый мир... разрушим, до основания...” і бальшавікі, пазнейшыя хаўруснікі гітлераўскага фашызму (пакуль Гітлер не спакусіўся іх заваяваць) мільёнамі губілі так званых „ворагаў народа”, і то з якім энтузіязмам! Доказам гэтага могуць быць Курапаты і сотні іншых фактаў. Але „камуністычнае” выхаванне давяло, што праўду мала хто ведае, а калі і чуў пра яе, дык хто ў гэта паверыць. „Сабачая тая праўда, якую абманам даказваць трэба”, але „майстры” ўдала гэта робяць. Вось каб, напрыклад, даказаць, што Пазьняк фашыст і гітлераўскі прыслужнік, Азаронак зрабіў нават фільм, аплёўваючы і сімволіку старажытную, усё перакручваючы паводле густу сталінскіх паклоннікаў. У судзе Пазьняк даказаў, што Азаронкава карціна гэта бессаромны паклёп. Але каму патрэбная праўда? Наіўна Пазьняк паступіў, адмовіўшыся грашовай кампенсацыі за знявагу. Толькі судовыя пакаранні могуць адабраць ахвоту аматарам да фальшу. Ну, але справядліва будзе сказаць, што гісторыя чалавецтва ад пачатку свету запісана крывёй і злачынствамі. Наша эпоха гэта таксама мусіць перанесці відавочна.

3) Словы Петручука: „А было б яшчэ лепш, калі б Праваслаўе... дабілася міру і дружбы паміж усімі народамі на зямлі”. Не надта разумею слова „дабілася”. Пры дапамозе якіх метадаў? Не ясна і тое, што ў гэтым жа тэксце, крыху раней, пісаў ён: „гэта мае нерэальныя мары, якія праўдападобна ніколі не споўняцца, бо свет... усё становіцца горшым”. Дык як жа гэта, нестабільны аптымізм? А не лепш было б падумаць, чаму якраз сёння свет становіцца горшым? На мой погляд зло можна перамагчы. Трэба толькі стварыць умовы. І не ненавісцю яго атакаваць, а дабром раззброіць. Бо любіць дабро і ненавідзець зло — гэта супярэчлівыя паставы. Шкада толькі, што людзі ўвогуле часам блытаюць паняцці зла і дабра між сабой. Шкада таксама, што Царква, духавенства і вернікі мала сэрца (апрача лічаных адзінак) прыкладваюць да таго, каб жыццё людзей насычана было хрысціянскім дабром. Ці ж Расія імперыяй стала не дзякуючы войнам і захопам чужых зямель? Ці Царква супрацііўлялася жорсткасці царскага самадзяржаўя? Зрэшты і ў самой Царкве бывалі непаладкі: рэформа Нікона, раскольніцтва, уніяцтва — крывавыя былі гэта падзеі. Бывала што Царква служыла больш імперыі, чым Богу (напрыклад, ад устанаўлення Свяцейшага Сінода Пятром І — 25 студзеня 1721 г.). Ці ж маючы ўсё гэта на ўвазе, беларусы могуць разлічваць на аўтакефалію сваёй Царквы, якая магла б бараніць нас ад русіфікацыі і паланізацыі і, як марыць Петручук, з'яднаць народы?

А ўсё ж ёсць надзея. Трэба толькі хацець папраўляць наш свет супольны і трэба пачаць рабіць гэта ад саміх сябе. Трэба навучыцца (кожнаму без выключэння) шанаваць духоўныя каштоўнасці не толькі свайго асяроддзя ды пачаць вучыць чалавечнасці дзяцей сваіх і ўнукаў. Але гэта трэба рабіць шчыра і штодзённа, а не абмяжоўвацца да пошукаў віноўнікаў.

**Анатоль Маўчун**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

### Частка XXIX

Бацька многа ўвагі прысвяціў грамадскім пераменам пасля вайны. Генеральна падтрымліваў ён агульны кірунак перамен, аднак у многіх выпадках крытычна ставіўся да розных праяваў новых парадкаў:

„Я табе гаварыў пра жыда, каторы после вайны прыязджаў і шукаў сваго багацтва. Відно, прапала яму золата, бо ні думаю, каб ён шукаў сваіх шафаў, чы перынаў. А гэто было тады, калі наш народ тут заварушыўсе, значыца, каб ехаці ў Савецкі Саюз. То бачыш, усе думалі, што нова Польшча то будзе такая сама як перад вайною і што беларусам будзе ў ёй бедово жыці. Ну то я гэтаго жыда спытаў, што ён аб гэтом усім думае. А ён мне сказаў больш-менш так: „Ні трэбо, Андрэю, нікуды выязджаці. Нова Польшча будзе зусім другая чым тая, што была перад вайною. У гэтой новой Польшчы ўсе дзеці і маладзёж будут бесплатно вучыцца і ўсіх пагалоўно будут лечыці бесплатно. У тым таксамо і мужыкоў. Для ўсіх будзе заробок, бо гарады ўсе паніщчаны і правіцельство будзе іх адбудоўваць. Ніхто беларусам ніякае крыўды ні будзе рабіці, бо ў правіцельстві будзе много жыдоў, а яны ж ад вякоў добрэ жылі з беларусамі, то яны не пазволят, каб іх хтось крыўдзіў. У Польшчы ніхто сілаю ні будзе заганяці ў калхозы і вогуле людзі будут жыці лепш, чым у Савецкім Саюзе і таму ні трэбо перааязджаць у Савецкі Саюз”.

Ты знаеш, я тут гаварыў з тымі, што ўжэ хацелі ехаць у Расею і пачці што ўсе ваздзержаліся ад выезду і засталіся ў Польшчы. І аказалаcё, што добрэ зрабілі, бо тые што выехалі, то яны закаштавалі такое біды, што свет ні бачыў. А от Марцінавы хлопцы паехалі і таксамо жылі ў вялікай бядзе. Хоць трэбо сказаці, што і Валодзя, і Александэр закончылі універсытэты і ўжэ цяпер жывут добрэ.

А што касаецца Польшчы, то трэбо сказаці, што той жыд, халера, то ўсё вельмі добрэ прадвідзеў. Ну можэ ні ўсё, бо нічого ні сказаў пра абавязковыя дасталвы, каторы страшна ўселісе мужыкам у косці. Так былі схваціці за горло, што многі мужыкі ні маглі ніяк разлічыцца з гасударством, то нават некаторыя з іх папалі ў цюрмы. От гэто то была вяліка дурнота са староны правіцельства. А от што касаецца науки, то праўда, пачало гасударство вучыці ўсіх бясплатно. Ты ж глядзі на Бандары. Пачці што з каждае хаты хтось пачаў вучыцца ў горадзі або працаваці ў фабрыцы. І, відно, усе добрэ жывут, гэто відно хоцьбы з таго як яны адзеты, якія ў іх твары або якімі ганяюцца машынамі. Ну і лечат усіх бесплатно, гэто вяліке дзело. У нас Дзедзёла прыязджае да хворых дахаты, дае ўколы і лекарство. І ўсё гэто бесплатно. Такого ж ні было ніколі. А глянь колькі дарог пабудавалі і новых дамоў у гарадах. Ты знаеш, гэта наша сяголнешня родзіна то зусім інша, чым тая, што была перад вайною. То ж пазваляют тут кругом, каб дзеці вучыліся па-беларуску. То такого таксамо ніколі ні было.

Мне то здаецца, што добрэ зрабіла нова ўласць, што забрала маёнткі ад памешчыкаў і дала зямлю мужыкам. Добрэ таксамо, што забралі вялікі фабрыкі ад капіталістаў. То ж цяпер, калі фабрыкі ў руках гасударства, то гасударство мае грошы на тое, каб лечыці бесплатно і вучыці бесплатно.

Ну але аднэ то зрабіла нова ўласць па-дурному. А гэто тое, што ўзяла пазабірала ад часнікоў усе малые алеярні, кафлярні, часальні воўны, цэгельні, млыны. Ты знаеш, што зрабілаcё. Там, дзе часнік усё рабіў сам, то цяпер яны паставілі і дзірэктароў, і застэмпцоў, і прэзэсоў, і кіраўнікоў. Ну, як то гаворыцца, дзе нянек шэсць, там дзіця без носа. То тут таксамо вышло. Прышлі ў гэты кафлярні і слесарні людзі, каторы ніякаго паняцця ні мелі аб тым, як іх абслугоўваць і ўсё памарнавалі. Або, як у Бандароў напапівалісе і спалілі млін. І што вышло? Вышло тое, што цепер німа ні часальні воўны, ні кафлярні, ні алеярні. Ты помніш, які смачны быў алей з ільну. Аб'ядзенне! Усю зіму елі і ніколі ні прыядаўсе. Найлепша еда то бульба і кісла капуста паліта алеём. Ну то вазьмі цяпер знайдзі ў нас алеярню. А тут у нас была на месцы ў Бандарах. А сегодне німа нідзе. Нават у Нізбодцы німа, у Нараўцы німа, і ў Нарві німа. А каб былі ні зачынялі гэтых часнікоў то яны і да сегодня рабілі б алей. І ім было б добрэ і людзям добрэ. Так што бачыш, нова ўласць много зрабіла добраго, але много нарабіла і чэпухі. Ну але відно ужэ яно так ест, што ні можно усё рабіці толькі добрэ.

Як жывут сегодне людзі? Добрэ жывут. Ты ж паглядзі ў Бандароў ужэ німа ў нікого саломяные страхі. Толькі на хатцы ў Алешухі засталасе, што ў другой хаці млінкі электрычны, радзіва, крайзэгі ўжэ і матацыклы ест. То ж такое нікому ні сніласё. Разумны быў той жыд. Добрэ, што я яго паслухаў і ні паехаў у Савецкі Саюз, бо там у калхоз загналі б. Ні знаю, чы то праўда, але ў нас старым мают даць эмэрытуры. То ж будзе рай на зямлі. Ну, бачыш, такое родзіны то ніхто ні ждаў і ні думаў, што так будзе добрэ”.

**Алесь Барскі**

## Мае рэфлексіі

Алесь Барскі ў сваіх чарговых публікацыях „Радзіма — Родзіна” многа месца прысвячае яўрэям, якія яшчэ перад вайною жылі ў Польшчы. Пра іх многа яму расказаў яго бацька, які з яўрэямі жыў вельмі добра і многія іхнія парады яму прыгадзіліся. Усё тое, што піша Барскі — гэта праўда, а яго бацька быў здольным чалавекам, калі так дакладна перадаў усё сыну, а ён на старонках „Нівы” — многім чытачам. Каштоўная гэта рэч, бо маладыя амаль нічога не ведаюць пра яўрэяў міжваеннага часу і ўяўляюць іх як нейкі найгоршы зброд ці нешта яму падобнае. Ад такіх уяўленняў паўстае варожасць, з яе антысемітызм і фашызм. Мой бацька калісьці таксама часта гаварыў пра яўрэяў дакладна так, як бацька А. Барскага. Паважаў іх і часта паўтараў, што яны, яўрэі, намнога лепшыя ад палякаў. Яўрэй не абкрадзе, хаця ашукаць можа на кожным кроку. Але гэта ў гандлі, а гандаль і спекуляцыя заўсёды абапіраюцца на ашуканстве, ці гэта ў яўрэяў ці ў іншых народаў. Перад вайною многа яўрэяў жыло ў Орлі і там, дзе цяпер парк, калісь густа сталі іх крамкі. Калі гітлераўская Германія напала на Савецкі Саюз у чэрвені 1941 г., фашысты ў першую чаргу ўзяліся за яўрэяў і пачалі прадаваць іхнія будынкі для тых жыхароў вёсак, якія падчас баёў пацярпелі ад пажараў. Дубічы-Царкоўныя ў ходзе першых дзён вайны былі амаль поўнасцю спалены; асталося адно восем хатак. Дубічане хлынулі ў Орлю купляць што папала: вядома, жыдоўскае дабро. У маіх бацькоў таксама ўсе будынкі пайшлі з дымам, але бацька не захацеў купляць жыдоўскіх — не хапала сумлення. Да таго ж бацька быў майстрам, як і яго браты, і пабудова дому не была для яго вялікай праблемай. У бацькі не было аднак воза, бо таксама згарэў, і па гэтай прычыне паехаў ён у Орлю, каб купіць сабе новы воз. Сустрэў там знаёмага яўрэя, Вайвеля, які сказаў майму бацьку:

— То што, і ты, Валодзя, прыехаў на жыдоўскае дабро?

— Не маю воза, — адказаў бацька, — дык падкажы, дзе яго раздабыць.

— Валодзя, я дам табе свой воз, — сказаў Вайвель, — толькі, барані Божа, не чапай жыдоўскага, гэта значыць маіх суайчыннікаў. Дай тры пуды жыта, а рэшту пасля і забірай воз.

Бацька так і зрабіў: аднекуль раздабыў тры пуды жыта, даў іх Вайвелю і забраў воз. І рэшту аддаў бы ды не ўспеў, бо жыдоў скора пагналі ў гета. Жудка было глядзець на гэтую падзею і тады людзі зразумелі, на што здольны гітлераўскі фашызм. Перад гэтым, праўда, немцы пагналі жыдоў на работу і яўрэі ўцешыліся: будзем жыць, гаварылі, бо калі працуем у немца, значыць будзе лепш, бо такіх немцы шануюць. Але гэта была толькі ілюзія, бо работы не ўратавалі жыдоў ад гібелі.

Мой бацька, як і дзядзькі, раілі некаторым яўрэям, калі яны яшчэ былі на свабодзе, каб уцякалі ў лес, у партызаны. Чулі аднак ад іх той сам адказ, што і бацька Барскага: ад свайго не ўцячэш і дзе падзенуцца нашы сем'і — лесу не хопіць на нас усіх. Часткова мелі, на жаль, рацыю. Мой бацька таксама гаварыў мне, што лепшых рамеснікаў — шаўцоў, столяраў, краўцоў, рымараў, кажушнікаў — не было, як жыды. І галоўнае: яўрэі глядзелі на якасць свае працы. Не так, як сёння, што абы з рук. Пра якасць жыдоўскай працы можа сведчыць нават масток каля Орлі на дарозе з Дубіч-Царкоўных. Колькі яму ўжо гадоў, а нідзе яшчэ і трэшчыны не відаць! А гэта таму, што яго калісь паставілі жыды.

**Мікалай Панфілюк**

## ПАРНАСік

Чытальніцкая літсуполка на негарантаваных паях

### Восеньскі парад

Верасень, кастрычнік, лістапад —
Восеньскі парад.
Месяц адыходзіць,
Другі надыходзіць.
Верасень ласкавы
Варт вялікай славы.
Усё даспела — тэрмін знае
І на малацьбу чакае.
Селянін сее збожжа —
Дапамажы яму Божа,
Каб вырасла слаўна
А не забаўна.
Працуе каля бульбы:
Трэба добрай дружбы,
Каб ішла работа
Дбайна, бестурботна.
А кастрычнік месяц
Ясней зоркі свеціць.
Ночы намнога даўжэйшыя,
Дні карацейшыя.
Месяц лістапад —
Апошні восеньскі парад
Крочыць як мужны ваяка
Да самай зімы, верце, аднака.

**Мікалай Панфілюк**

## Белавежская даўніна

Старая Белавежа размяшчалася 7 км у паўночна-заходнім напрамку ад Новай Белавежы, ля ракі Лутоўня. Там, мабыць, першыя будынкі паставілі на пачатку XV стагоддзя Вітаўт і Уладзіслаў Ягайла, а потым — свой паляўнічы дом Зыгмунт Стары.

Найранейшы запіс аб Белавежы датуецца 1639 годам. Быў тады тут паляўніча-праездджы двор караля Уладзіслава IV. Пры двары былі стаў і млын на рацэ Нараўцы. Белавежскі двор быў у той час адзіным сталым пасяленнем у пушчы, хоць не першым. Паводле гістарычных вестак, папярэджвалі яго будынкі ва ўрочышчах Старая Белавежа і Замчышча, ад якіх сёння няма следу.

З часам ля двара ўзнікае 25-моргавы фальварак, аб якім згадваюць крыніцы ад 1696 года. Фальварак гэты дае пачатак Белавежскай паляне.

У 1775 годзе Белавежа налічвала ўсяго 20 дамоў.

У 1826 годзе гэтае пасяленне складалася з 56 хат. Былі царква ды карчма.

У другой палове XIX стагоддзя ў Белавежы пражывала каля 600 чалавек. Працавала лячэбніца (бальніца), дзве школы ды паштовая станцыя.

У 1900 годзе існавалі дзве школы прыналежныя міністэрству асветы: мужчынская (Аляксандраўская) з 114 вучнямі і жаночая з 67 вучаніцамі.

У 1929 годзе ў Белавежы адкрылі школу для ляснічых, а ў 1930 годзе — аддзяленне Даследчага інстытута дзяржаўных лясоў. Увесь час працавала пачатковая школа.

У 1939 годзе Белавежа была 9-тысячным пасёлкам.

У 1980 годзе Белавежа налічвала 2 656 жыхароў, у 1990 годзе — 2 500 і ў 1994 годзе — каля 2 700 асоб.

Зараз у Белавежскай гміне пражывае каля 3 400 чалавек. 80% насельніцтва гміны — гэта беларусы. У самой Белавежы ёсць 1 500 праваслаўных, а практыкуе 800 вернікаў.

**(яц)**



## А колькі беларускіх?

3 верасня 1995 года I праграма Польскага радыё на ўсю краіну транслявала размову прадстаўніка Саюза палякаў у Рэспубліцы Беларусь аб польскім школьніцтве ў суседняй дзяржаве. Ён наракаў на сітуацыю, а журналіст на канец перадачы сказаў літаральна так: „Перад вайною ў Гродне было дзвацаць дзевяць польскіх школ, а цяпер усяго толькі адна”.

Я перакана804ны, што такія радыё- і тэлеперадачы не робяцца адно толькі для статыстыкі. Мне проста цяжка зразумець, чаму заўсёды, па радыё і тэлебачанні, з маньяцкай упартасцю сцвярджаецца, што Вільня, Гродна і Львоў — польскія гарады. А таму, што польскае новае пакаленне мае ведаць, што гэтыя землі акупуюць літоўцы, беларусы і украінцы. Маладое пакаленне палякаў мае ведаць, што нельга спыняцца ў імкненні да далучэння гэтых тэрыторыяў да Польшчы.

Калісьці, але не так ужо і даўно, бо ўсяго некалькі гадоў таму, гасцяваў у Польшчы апошні прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў. На сустрэчы з польскімі вучонымі ў Каралеўскім замку ў Варшаве ён атакаваўся рознымі, нявыгаднымі для Расіі, пытаннямі, на якія нічога не мог адказаць. А сорам таму прэзідэнту, які, напрыклад, не ведае, што дзеялася на Беларусі і Украіне падчас I сусветнай вайны і якім коштам будавалася там польская дзяржаўнасць, колькі беларускіх вёсак спалілі ў 1919—20 гадах. Палякі ведаюць, і слушна, колькі загінула народу ў савецкіх лагерах і турмах, а беларусы не ведаюць і не хочуць ведаць.

Усе ведаюць нашыя нягоды ў II Рэчы Паспалітай, так ведаў праблемы беларусаў у сённяшняй Польшчы пасол, якога тут праслаў Пятро Краўчанка. Калі карэспандэнты польскага тэлебачання запыталі ў яго, якія праблемы маюць беларусы ў Польшчы, ён з мінай знатака адказаў: „Беларусы ў Польшчы не маюць ніякіх праблем”. Пасля агледзеўся і сваю пазіцыю ў гэтай справе, магчыма, перамяніў, але сказанага ў пачатку сваёй місіі, выязджаючы з Польшчы, не адклікаў. Але польскі грамадзянін ведае, што беларусы ў РБ палякаў прыгнятаюць, а іх суайчыннікі ў Польшчы робяць што толькі захочуць і не хапае ім толькі птушынага малака. Болей таго, ведае ён таксама, што ў часы Народнай Польшчы ўсе беларусы засядалі ў найвышэйшых органах улады і праследавалі патрыётаў. Польскае маладое пакаленне не ведае аднак аб разбурэнні шматлікіх праваслаўных храмаў у II Рэчы Паспалітай, ці пра тое, што двухмільённая беларуская меншасць увогуле была пазбаўлена свайго школьніцтва.

І тут пастаўлю пытанне:

Колькі беларускіх школ, або хаця б класаў было ў Гродне ў даваенный Польшчы?

Няхай журналісты і палітыкі не ўводзяць у зман сваё і міжнароданае грамадства, бо на кожны яд ёсць супрацьяддзе. Няхай перамагае праўда, а не хлусня! Будзе з гэтым цяжка, бо рэдка хто праўду шануе.

**Васіль Петручук**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Снілася мне мумія, якую прынеслі нейкія людзі. Яе раскруцілі і паклалі на падлогу, пакрытую не вельмі прыгожай, але досыць акуратнай пліткай, і атрымаўся быццам нейкі дыван, абтрэпаны па баках, няроўны. Я злавалася, што гэты дыван-„выкладзіна” мне не падабаецца, ён непрыгожы і зусім непатрэбны, паколькі на падлозе ёсць плітка. Але тыя, хто тую незаказаную мумію-„выкладзіну” прынёс, не сталі са мной дыскутаваць, не хацелі яе скрунуць назад, яны сабраліся і некуды пайшлі.

**Мірка**

Мірка! Твой сон даволі складаны. Гм-м... Мумія! — мёртвы чалавек, цела якога захавалі для нашчадкаў. І з гэтай муміі, калі яе раскруцілі і паклалі на падлогу, атрымаўся дыван, але няроўны і нейкі абтрэпаны.

І ў гэтым моманце мушу табе сказаць, што наогул, калі сніцца дыван, дык прадвяшчае ён справы надта добрыя — адпачынак, спакой, камфорт і багацце. Але твой дыван якраз наадварот: прадвяшчае, што з гэтымі добрымі справамі ты будзеш мець праблемы. Іншая справа, калі б быў ён новы, прыгожы і роўны. Ну, а з чаго ён быў зроблены, дык ты ж і так ведаеш — з муміі, нежывога чалавека. Можа нейкі чалавек парушыць твой спакой. Гэты чалавек можа быць мёртвы ў прамым ці пераносным значэнні.

**АСТРОН**

## ХАЧУ МУЖЧЫНУ!..

— Ты, Танька, пэўна, зусім ужо здурэла на старыя гады! — лаялі адну сталую кабету сяброўкі па працы. — Чаго швэндаешся за чужым? Ён жа жанаты, а ты замужняя. Ты лепш мужа пільнуй, а то Міколіна жонка ходзіць за табою, лаецца брыдкімі словамі і ўсім кажа, што разбярэцца з табою па-свойску.

— Нічога вы, сяброўкі, не разумееце, — адказвала ім Танька, — вам вашыя мужыкі дагаджаюць, а мне мой — не. Проста я хачу мужчыну, які б мяне задавальняў. Ды і разводзіцца цяпер не трэба — кахацца можна і так. А мне з ім проста цудоўна — быццам бы ён мой найпершы... Разумееце?..

Але сяброўкі ці то сапраўды не разумелі, ці то зрабілі выгляд.

— Зусім памяшалася ў бабы ў галаве! — выраклі яны.

Неўзабаве, прыхварэўшы на сухоты, памёр Таньчын муж. Але ўдава не насіла жалобы. Наадварот — бегала з Міколам на танцы, хадзіла ў кіно... І, у рэшце рэшт, зацяжарыла. Мікола, як дазнаўся пра гэта, напалохаўся і кінуў каханку. Танька бегала за ім усюды, але той толькі і казаў:

— У мяне жонка ёсць, а ты пайшла ў ...

Таньчыны сяброўкі толькі смяяліся:

— Вось дагадзіў табе Мікалай на старыя гады, ну дагадзіў! Будзеш цяпераКа дзіця на старыя гады даглядаць.

Таццяна, крыху супакоіўшыся, адказала:

— Канешне, Мікола зрабіў подла, але за дзіця не хвалюйцеся, як-небудзь выгадую.

Праз нейкі час нарадзіла Танька дачушку, а калі тая крыху падрасла, ізноў завяла каханка — шафёра Марка.

Сяброўкі, дазнаўшыся пра гэта, ледзь не страцілі прытомнасці.

— Ну, дурная баба, — казалі яны. — Хіба тая гісторыя з Міколам не была табе навучкай? Глядзі, ізноў зацяжарыш...

— Нічога вы не разумееце, — адказала Танька. — Проста я хачу сапраўднага мужчыну, які б мяне задавальняў. Ну жыць не магу без гэтага!..

Казалі, што Танька ізноў ходзіць цяжарная...

**Аўрора**

## Крыжаванка

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | 2 | | 3 | 4 | | 5 | | 6 | | 7 | |
| 8 | | | | | | | | 9 | | | | | |
| | | | | | 10 | | | | | | | | |
| 11 | | | | 12 | | | | 13 | 14 | | | | |
| | | | 15 | | | | | | | | | | |
| 16 | | 17 | | | | | | | | | 18 | | 19 |
| | | | | | | 20 | 21 | | | | | | |
| 22 | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | 23 | 24 | | 25 | |
| | 26 | | 27 | | 28 | | | | | | | | |
| 29 | | | | | | | | | 30 | | | | |
| | | | | | 31 | | | | | | | | |
| 32 | | | | | | | | | 33 | | | | |
| | | | | | 34 | | | | | | | | |

**Гарызантальна:** 3. гераічныя народныя паданні, 8. мелодыя, 9. дамоўленасць, 10. зуб дзіка, 11. прадукт, 13. італьянскі кампазітар (1792—1868), 15. мястэчка на Беласточчыне, 16. навучальная ўстанова, 20. распараджаецца грашамі ўстановы, 22. доблесны рыцар, 23. прыток Камы, 27. прыбор для дыктара, 29.сталіца Албаніі, 30. плоскі кавалак дрэва, 31. дэ Аларкон-і-Мендоса Хуан, іспанскі драматург (1581—1639), 32. мясцовасць з мінеральнымі крыніцамі, 33. польская рака, 34. жыхар Меккі.

**Вертыкальна:** 1. дванаццаць сузор'яў, праз якія вандруе Сонца, 2. забіў лернейскую гідру, 4. жыхары Палесся (мн. л.), 5. горад у Балівіі, 6. горад у Францыі на рацэ Мазель, 7. фаза Месяца, 12. светлавалосы мужчына, 14. гадоўца аленяў, 16. ціхая мова, 17. мястэчка на Беласточчыне, 18. рэгістрацыя, 19. паўднёвае дрэва, плод якога падобны на яблык і грушу, 21. жаночае імя, 24. аўтар „Загонаў” і „Самасея”, 25. пустазелле з ружовымі кветкамі і ядавітым насеннем, 26. сплаў жалеза з вугляродам, 27. рухавік, 28. чарцёж зямной паверхні.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 35 н-ра:**

**Гарызантальна:** балада, компас, магіла, дача, ясак, падгалосак, Кіеў, арба, скарга, лісток, Раздан.

**Вертыкальна:** барада, дама, кола, асілак, Гібральтар, Чапаеў, ясакар, Кігалі, балван, скок, гара.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

Ніва

“Niwa”
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: “ORTHDRUK”, Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраловіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.**
Старшыня Праграмнай рады — Варвара Пякарская

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1996 r. upływa 20 listopada 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

З народнага

## Прыпеўкі

Пастарайцеся, дзяўчаты,
Усе канавы засыпаць,
Бо такія хлопцы ходзяць,
Што з канавы не відаць.

Мы чужыя хаты крылі,
А свае някрытыя.
Чужых дзевак мы любілі,
А свае — забытыя.

Прыкацілі ка мне сваты
На сівой кабыле,
Завярнуліся назад —
Жаніха забылі.

Як удару трапака —
Лапаткі дзяруцца.
Як прыскочу казака —
Аборачкі рвуцца.

На вуліцы скрыпка грае,
Мяне маці не пускае.
— Пусці, маці, паглядзець,
Будзеш сабе заця мець.

Колькі раз я заракаўся
Гэтай нівай не хадзіць;
Спалюбілася дзяўчынка,
Не магу яе забыць.

Колькі зорачак на небе,
Адна зорачка гарыць;
Ёсць і гожых і прыгожых —
Па адной сэрца баліць.

*Падборку зрабіў*
**Янка Целушэцкі**






Мал. П. Козіча

## Мне іх шкада...

Кола гісторыі няўмольна круціцца. І перамолвае ўсё. „Хто быў нікім, той стане ўсім...” Хто быў „усім” — ідзе на пенсію. Па хваробе. А якая хвароба? Хадзіць не можа. Пешшу. Есці не можа з магазіна. Спаць не можа ў ложку. Бо прывык за рабочым сталом. Ведае толькі два словы: „Згаджаюся!” і „Адмаўляю!” І лячыцца не хоча. У звычайнай бальніцы. Прывык да спецыяльнай. Нібы ў яго такая вялікая вага, што ў звычайнага бальнічнага ложка ножкі не вытрымаюць...

Над адным школьнікі ўзялі шэфства. Навучылі хадзіць. Арганізавалі яму экскурсію па горадзе. Растлумачылі, што такое тратуар, што такое трамвай, што такое чарга.

Дар мовы вярнуўся да чалавека. На радасцях выгукнуў:

— І трэба ж было так разумна прыдумаць: стварыць чэргі, каб заслужаным людзям даваць пазачаргова!..

Мне іх шкада. І тых, што ўжо. І тых, што яшчэ.

Вось горад наш стаіць не ў зоне землятрусаў. А сейсмолагі заўважылі, што трасецца. Адзін будынак. Кіраўнічы. Думалі, што нехта падкапваецца. Не. Выявілася, што вібрыруюць крэслы. Пад чыноўнікамі. І ёсць чаму вібрыраваць.

Змяніліся абставіны. Страшна штосьці паабяцаць, і страшна нічога не абяцаць. Трэба ісці да людзей. Трэба нешта гаварыць. Разумнае, канкрэтнае, карыснае. А што? Разумнага няма. Канкрэтнага не ведаеш. Карыснае — кожнаму сваё. Скажы неўпапад, і той, хто ўчора трапятаў ад аднаго твайго позірку, сёння заявіць: „А я цябе бачыў. У труне. Без тапачак. Босага...” І нічога яму нельга зрабіць. Ён — нефармал.

Пайшла чутка, што ў тых, якія нават застануцца, забяруць аўтамабілі. Персанальныя. А кожнаму выдадуць каня. Персанальнага. І сядло. Але я думаю, што гэта нерэальна. Не кожны ў сядле ўмесціцца. Не тая фігура. Гэта раз. А па-другое, не дай Бог, сядок задрэмле і ўпадзе. Ды і не кожны ведае куды ехаць. А даваць кожнаму седаку яшчэ па аднаму персанальнаму вадзіцелю — гэта зноў жа чапляць дадатковае сядло. І зноў транжырыць нашы з вамі грошы. Праўда, гэта нам не навіна. Вось аднаго ўсё жыццё вазілі ў браніраванай машыне. Каб, не дай Бог, хтосьці... З рагаткі, ці што? А пасля ўбачылі, што дарэмна хваляваліся. Выявілася, у яго была браніраваная галава.

Сітуацыя на мяжы катастрофы. Адміністратыўнай. У адной установе ўсе сядзяць. Амаль не дыхаюць. Як мышы, якія адчуваюць прыход ката. Калі б маглі, у шуфляды сталоў пазалазілі б. Абы толькі не заўважылі. Не ўспомнілі, што яны ёсць яшчэ. У іншай установе ўсе мітусяцца. Энергічна чухаюць патыліцы. Кожны хоча даказаць, што ён для грамадства незаменны. Што ён — мозг грамадства. Мозг. Вузкаскіраванага дзеяння. У адну кропку. На якой сядзіць.

Мне іх шкада. Праўда, мой сябар, Ваня Малдаван, кажа:

— Ты пашкадуй сябе. Паглядзі на сябе ў люстэрка і ўспомні народную прыказку: „Пакуль тоўсты пахудзее, то худы памрэ”...

**Яўген Дудар**
*Пераклаў з украінскай*
*Валерый Бабей*

## Смех у санаторыі
### або „Даўціпы” з альбома Андрэя Гаўрылюка

Размаўляюць два суседы:

— Вельмі перапрашаю, што мае курыцы выдзяўблі ўсё зерне ў вашым агародзе.

— Дробязь; гэта я перапрашаю за сабаку, які падушыў вашых курэй.

— Няма пра што гаварыць: жонка раз'ехала яго самаходам.

— Ведаю. Я прабіў у ім шыны.

* * *

Гаспадар гасцініцы будзіць госця а шостай гадзіне раніцы.

— Чаму так рана? — пытае заспаны начлежнік. — Прасіў жа будзіць а восьмай...

— Госць у суседнім пакоі хоча з'есці снеданне.

— Пры чым тут я?

— Бо вы спіце на нашай адзінай настольніцы.

* * *

Спатыкаюцца два вірусы грыпа:

— Што чуваць? — пытае першы.

— Не ўяўляеш, — адказвае другі, — якую прыгожую жанчыну ўдалося мне сёння паклаcці ў ложак!

* * *

— Коля, ці ты калі лятаў самалётам?

— Пэўна.

— І не баяўся?

— Толькі першы раз.

— А пасля?

— Пасля абыходзіў самалёт здалёк.

* * *

Паліцыянт дапытвае падазронага ў пакражы:

— Ці былі вы раней караны?

— Так.

— Калі?

— Дзесяць гадоў таму.

— А ад таго часу?

— Ані разу.

— Чым вы ў той час займаліся?

— Сядзеў у турме.



## СЕНТЭНЦЫІ

Крыніца пачынаецца з крыніцы.

* * *

Добра, калі свіран трашчыць у швах, а не кашуля.

* * *

Паток слоў нясе пену пажаданняў.

* * *

Праўда ў мяшку Бога.

* * *

На возе і ў нагах крылы.

* * *

З часам і гара выкапае сабе магілу.

**Барыс Руско**




Ты, Сэрцайка, ці часам не баба? Неяк у цябе заўсёды так выходзіць, што бабы маюць рацыю. Усё іх крыўдзяць, недаацэньваюць, ашукваюць. А ты вось вазьмі на розум: ці ж не гадаўкі яны?!

Так ужо яна да мяне прымілялася, так каля мяне хадзіла. Як у мой кабінет з нейкай паперкай для подпісу ўвойдзе, дык так і затрымаецца, зубкі паскаліць, ножкай, адыходзячы, блісне ў гэтым сваім міні.

А як умела гарбату падаць! Яшчэ і сурвэтачкі з хаты прыносіла. Вышываныя ручкамі! Ну, і не вытрымаў я, паддаўся. А хто б тут вытрымаў? Чалавек жа не з жалеза. І пачалі мы сустракацца. То ў парку, то ў кіно схадзілі, а то, як удалося, дык і ў маім кабінецiку пакахаліся. Бывала так, што наша бюро зачынялі пазней, а нашыя працаўнікі ўжо павыходзілі.

Што ж было рабіць, калі ў мяне былі жонка і дзеці, у яе — мужык, ды і дзеці таксама. Трэба было хавацца. Ніхто з нас спачатку не хацеў разводзіцца. І так цягнулася наша справа. А потым пачала яна прыпіраць мяне да сценкі. Не хачу, кажа, жыць з мужыком, хачу жыць з табою!

А я што? Дзяцей-жонку не кіну, гэта я ўжо вырашыў цвёрда. Жонка добрая, зарабляе больш за гэту. Ну, дык і пачало ў нас з сяброўкай усё псавацца. Не то што мы перасталі зусім сустракацца, але рабілі гэта радзей. Мне надакучыла выслухоўваць яе прэтэнзіі. Вечна ёй было кепска. Была на мяне пакрыўджаная. Нашы сустрэчы з мілых і прыемных ператварыліся ў сумныя і горкія размовы. Я пачаў уцякаць ад каханкі. То выходзіў з працы, каб яна не заўважыла, то быў заняты нейкімі афіцыйнымі гасцямі і г.д. І хутка яна зразумела. А, зразумеўшы, перастала мне дакучаць.

Ну, думаю, дзякуй Богу, адчапіўся ад бабы. І было мне нейкі час добра і спакойна. Мо мінула з паўгода, як справы неспадзявана ўскладніліся. Зайшоў я ў нейкай важнай справе ў пакой маёй падначаленай, колішняй каханкі, а яна стаіць пры сцяне, яе прыпёр сваім магутным целам мой калега па працы і ... цалуюцца ўзасос. Нават у першы момант не заўважылі, што я ўвайшоў. А калі ўбачылі — адскочылі адзін ад другога. А чаго? — думаю я. Я ж да яе даўно нічога не маю. Я раззлаваўся аднак, трэснуў дзвярыма ды выйшаў з яе пакоя. Чорт ведае, што робіцца ў нас на рабоце!

Тое, што я ўбачыў, не давала мне жыць. Не разумею, што дзеялася са мною. Я хадзіў, як ачмурэлы, а ўсе пачуцці да гэтай нявернай нахлынулі на мяне з новай сілай. Да гэтага калегі, што прыціскаў яе да сценкі, я наогул не адзываўся. Не заўважаў яго, быў для мяне нулём. А яна — у мой бок нават не глянула. Нічога ўжо не магло мне дапамагчы, колькі я не прасіў яе, які не быў ласкавы, куды не запрашаў. Вось прайшло ў яе і ўсё! А з той сволаччу сустракалася.

І тады я рашыўся на адчайны крок. Пазваніў яе мужу і расказаў яму, якая ў яго жонка і што яна вычупляе. Заўважыў пры гэтым, што такіх рэчаў на сваім прадпрыемстве цярпець не маю намеру.

Божа, назаўтра я сустрэў яе на вуліцы (на працу не прыйшла). Уся была абабітая, сінякі былі ўсюды. Кажа, што гэта я змарнаваў ёй жыццё! Ведаеш, Сэрцайка, мушу прызнацца: мне ад гэтага не палягчэла. Што горшае, я зусім яе не бачу цяпер, бо яна звольнілася з працы. Што рабіць?

**Пятрусь**

Пятрусь! Ты сказаў яе мужу, што яго жонка к..., бо яна цябе не хацела?! А калі была з табою, здраджваючы мужу, то ўсё было цаца...?!

А зрэшты, хто тады ты? У цябе ж таксама была жонка і дзеці. Душачка ў цябе, Пятрусь, маленькая, ой маленькая. Нацешыўся сам, даў бы і іншым нацешыцца. А тут: і сам не гам, і другому не дам. Пачуцці ў яго раптам ажылі, глядзі ты...

**СЭРЦАЙКА**